# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №48 (157), 30 ЛІСТАПАДА 1994 ГОДА. КОШТ 50 РУБЛЁЎ




# СВЯТЫЯ, ПРАРОКІ, ВЕРНІКІ

Да веры нельга прымусіць. Веру нельга прынесці на лязе мяча альбо на вастрых дзіды. Таму мне падаецца, што пытанне аб тым, якую падзею лічыць пачаткам хрысціянства на Беларусі і за якой асобай — гонар Хрысціцеля, дагэтуль застаецца нявырашаным. Я не магу згадзіцца з маскоўскай праваслаўна-бальшавіцкай версіяй, ухваляючай кіеўскага князя Уладзіміра, пры якім хрысціянства стала афіцыйнай рэлігіяй Русі. Хай у Маскве яго называюць "святым" і "роўнаапостальным", для Беларусі ён заўсёды будзе рабаўніком і забойцай, на сумленні якога спалены Полацк, смерць князя Рагвалода і ягоных сыноў, гвалт над князёўнай Рагнедай. Маліцца на гэтага нелюдзя — значыць абражаць Госпада. Хрысціянства, як ідэйны падмурак сваёй улады, ён усталёўваў на падуладных яму землях агнём і мячом. Такім чынам можна толькі набыць ворагаў, але не прыхільнікаў і вернікаў.

Не захопнік-чужынец прынёс на нашу зямлю свет Хрыстовай веры, а святая Еўфрасіння — полацкая князёўна, унучка Усяслава Брачыславіча, славутага абаронцы нашае дзяржавы, будаўніка Полацкай Сафіі. Змяніўшы княскі ўбор на манаскае адзенне, выбраўшы служэнне Госпаду, а не ўладу над людзьмі, Еўфрасіння не стала хавацца за манастырскаю сцяною ад наканаванага ёй лёсам зямнога дзяржаўнага клопату. У цяжкія для Полацкай зямлі дні, у час высылкі полацкіх князёў у Візантыю, яна, як адзіны на радзіме прадстаўнік роду, была нібыта сцяг Незалежнасці. Сваім ахвярным жыццём вялікая асветніца сцвердзіла ісціну: калі хочаш удасканаліць свет — пачынай з самога сябе.

Мала хто ўспамінае Бога ў шчаслівыя хвіліны, і рэдка хто не звяртаецца да яго ў бядзе. Ад людзей старэйшых мне даводзілася чуць, што ў часе вайны, калі не было на каго спадзявацца, людзі шукалі дапамогі і маральнай падтрымкі ў царквы. А колькі мацярок у нядаўнія гады маліліся, каб дзеці іхнія вярнуліся жывыя з Афганістана! Ці не ёсць своеасаблівым знакам скрутнага часу тое, што менавіта на абшарах былога СССР у вялікай колькасці будуюцца новыя храмы і вяртаюцца рэлігійным абшчынам старыя (самы грандыёзны праект — распачатая адбудова храма Хрыста-Збаўцы ў Маскве)?

Трапляе рэлігія і ў поле зроку палітыкаў. Праваслаўю адводзяць ролю цэментуючай, ідэйнай асновы будучай Расійскай імперыі; сцвярджаецца, нібыта праваслаўныя народы павінны быць аб'яднаны ў адной дзяржаве (беларусаў Масква, зразумела, трактуе як выключна праваслаўных, каталікі — "палякі"). А гэта ўжо замах на наш дзяржаўны суверэнітэт. Не здзіўлюся, калі ў хуткім часе ў палітычных гульнях у якасці "праваслаўнай карты" будзе скарыстана імя і вобраз святой Еўфрасінні як аргумент на карысць "воссоединения". Часам і д'ябал спасылаецца на Святое Пісанне...

Скончу нататку прыпавесцю. Адыходзячы ў іншы свет, чалавек азірнуўся на свой зямны шлях і ўбачыў два ланцужкі слядоў — свае і Бога, які вёў яго па жыцці. Але там, дзе чалавек праходзіў самыя цяжкія дні, адзін ланцужок губляўся, адбіткі толькі адной пары ног былі бачны на зямлі. "Чаму Ты пакідаў мяне ў самыя цяжкія часы, калі быў найбольш мне патрэбны?" — запытаў чалавек у Бога. "Я заўжды быў побач, — адказаў Бог. — А калі ты не мог ісці, я нёс цябе на руках".

Чалавек, ды і цэлы народ ніколі не бываюць настолькі няшчаснымі і самотнымі, як падаецца ім у цяжкія хвіліны, дні і гады. Паэт назваў Беларусь "зямлёю пад белымі крыламі", а гэта значыць, зямлёю на Боскай далоні.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**



***На здымку:*** праект помніка Еўфрасінні Полацкай (скульптар Анатоль Арцімовіч).

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

## БОГ ЛЯ НЁМНА ІШОЎ...

Лістапад на лістапад не перападае: калі ўдаецца з'ездзіць на традыцыйныя "Каласавіны" пад Стоўбцы, калі — не. Сёлета зноў пашанцавала, дый удзельнікі ладабраліся якраз тыя, каго заўсёды радая пабачыць — Анатоль Вярцінскі, Сяргей Грахоўскі, Сяргей Законнікаў, Аляксей Дудараў, Мікола Аўрамчык і, вядома, супрацоўнікі Літаратурнага музея Якуба Коласа. Даніла Канстанцінавіч на гэты раз не паехаў — усё ж дарога вымагае шмат сіл, ды і ў Мінску было шмат спраў па "Каласавінах". Нядаўна прайшла навуковая канферэнцыя, дзе, мяркуючы па ўжо выпушчаным зборніку, было шмат неардынарных, цікавых матэрыялаў па творчасці Якуба Коласа, адбылося дзіцячае свята "Казкі жыцця", ладзілася вечарына ў Доме літаратара... Ды Зінаіда Камароўская, дырэктар музея, і сама выдатна арганізоўвае кожны выезд — было зноў прыемна пераканацца ў гэтым.

На гэты раз новае ў "Каласавінах" было — адкрыццё мемарыяльнага знака ва ўрочышчы Цёмныя Ляды і выставы "Пчалярства і рыбалоўства" ў "родным куце" Якуба Коласа — мемарыяльнай сядзібе Альбуць.

Але гэтыя новыя падзеі ўспрымаліся так, як маглі б успрымацца, скажам, дзве крынічкі, якія вырваліся з нетраў каля Нёмана і сталі б уліваць у яго... Нёман — гэта вечнае, неад'емнае ад нас, і на адно гэтае спатканне з ім варта прыязджаць часцей, дакранацца да яго струменяў, глядзець на яго хвалі, радавацца новым прытокам...

Якуб Колас — гэта таксама вечнае. Ужо пакаленне нашых бацькоў вырастала з яго імем як класіка літаратуры, цяпер гэта ўспрымаюць усё новыя і новыя пакаленні. Але ў класіцы ёсць і свае падводныя камяні — яна альбо навечна закладаецца ў памяць і свядомасць і застаецца там, нібыта засушаная кветка, на якую натыкаюцца рады ў год, альбо патрабуе новага і новага прачытання, таму што юнацтва, маладосць і сталасць чытаюць па-рознаму.

Вядома, можна аднавіць у памяці хату, дзе нарадзіўся Колас, — не, яшчэ не Колас — маленькі Кастусь, каб задумацца над пытаннем, якое будзе, мабыць, навекі невырашальным для чалавецтва: чаму, як і калі нараджаюцца геніі? Але, як ні думай пра гэта на адлегласці, толькі тады, калі ты заходзіш у самую гэтую простую вясковую хату з яе нявыветраным пахам жыта і цёплай аўчыны, з белай кіпенню самаробных карункаў на ложку, цябе ахінае невыказнае пачуццё боскасці і таямніцы, якое можна паспрабаваць выказаць у якім-небудзь радку, накшталт: "Бог ля Нёмна ішоў і пачуў немаўля". Так — толькі Бог мог пачуць і адчуць патрэбу гэтага народа ў некім, хто б назваў яго па імю, хто б паказаў яму самога сябе... Але дзірваны забыцця такія глыбокія, а ланцугі зняволення такія моцныя, што аднаго, нават двух геніяў мала — усё яшчэ як бы толькі прыадчынілася, прыаралася — так, колькі там палосаў з неабдымнага поля. Але і на гэтых палосах ядранае жыта спрабуе спапяліць Чарнобыльскі цмок. Наканавана́сць? Агульны грэх народа, што і цяпер не хоча вырывацца з ланцугоў? А можа, ягонай інтэлігенцыі, што ў першыя ж пакутныя стагоддзі здрадзіла і мове, і дзяржаўнасці?!

Але новая інтэлігенцыя гэтага народа вось ужо два стагоддзі не звязаная са шляхтай ці магнацтвам — ні з іх пыхай, ні з іх грэхам. Новая інтэлігенцыя выходзіць з самых народных глыбінь, яна ў муках самастварэння і амаль заўсёды пад прэсам знішчэння альбо пагарды. Янка Купала — са шляхты, але той, што сядзіць на зямлі. Якуб Колас — спрадвечны селянін, які стаў інтэлігентам, але заўсёды, да канца жыцця, хацеў адчуваць у руках каласы і хадзіць па сялянскіх сцежках свайго роду.

... Яны, гэтыя сцежкі, зараз прыгожа аздобленыя народнымі майстрамі, атуленыя клопатам працаўнікоў культуры. Пасля сёлетніх "Каласавінаў" з'явілася новая сцежка да ўрочышча Цёмныя Ляды, дзе электрычкі пралятаюць паўз памятны камень, з аднаго боку, і дачны пасёлак — з другога. Як пісаў Якуб Колас у 1948 годзе, "Колісь мікалаеўцы карчавалі Ліпава і Цёмныя Ляды, ...яны давалі ў скарб трэці сноп".

Зямля і сённяшні скарб мікалаеўцаў — але скарб гэты ім усё яшчэ не належыць, дый стольні гадоў адбучвалі ад неабходнасці штодзень, штохвілінны дбаць аб зямлі і з ёю звязваць ніты свайго жыцця. Але знітаванасць з Быццём абарвацьу ўсё ж не ўдалося, і нягледзячы на наступ маскультуры, жывуць сярод іх цудоўныя народныя песні, што выдатна даказвае выдадзены сёлета ў Стоўбцах зборнік "Народныя песні радзімы Якуба Коласа", які сабрала Людміла Камароўская. Ужо пасля вяртання я прагартала гэты зборнічак і зноў падзякавала людзям, якія працуюць на Коласавай ніве — столькі іскрынак, непадзельна-шчырых і чыстых, захавалася ў народнай песні!

... Гартаю праграму Літаратурнага свята "Каласавіны", успамінаю экскурсію, якую правёў на выставе пчалярства і рыбалоўства Юрка Міцкевіч, радкі з паэмы "Новая зямля" ў яго выкананні, танцы і спевы самадзейных артыстаў Стаўбцоўскага раёна, выступленні калег. На развітанне Зінаіда Камароўская падзякавала пісьменнікам за ўдзел у свяце. Мне ж хочацца, наадварот, падзякаваць усім, хто даў нам магчымасць зноў дакрануцца да вечна жывых таямніц жыцця і творчасці Якуба Коласа і задумацца над прарочай місіяй Слова...

**Вольга ІПАТАВА**

СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

## НАМАГАННІ ПААСОБНЫЯ, МЭТА АГУЛЬНАЯ

19 — 20 лістапада ў Навапалацку адбылася канферэнцыя "Альтэрнатыўная літаратура. Паасобныя намаганні да агульнае мэты. Новыя імёны новай Усходняй Эўропы". У праграму канферэнцыі ўваходзілі працоўныя паседжанні, дзе выслухоўваліся і абмяркоўваліся даклады ўдзельнікаў, літаратурная вечарына, экскурсія па Полацку.

Канферэнцыю арганізавала Таварыства Вольных Літаратараў пры фундацыі Фонду Сораса — Беларусь. Уся адказнасць за правядзенне мерапрыемства лягла на плечы старшыні ТВЛ Алеся Аркуша, і, у знак удзячнасці ТВЛ, перад адкрыццём канферэнцыі мастак Алесь Пушкін прэзентаваў сваю новую карціну "Паэты", дзе вакол дзяўчынкі-музы выявіў партрэты сяброў гэтай літаратурнай супольнасці.

Мэтай канферэнцыі, як адзначыў у сваім выступленні прадстаўнік Фонду Алесь Анціпенка, было "пашырыць культурную прастору, калі мяняецца культурная матрыца жыцця, разбураюцца стэрэатыпы, і не толькі вызначыць альтэрнатыву мінуламу, але і выявіць новыя магчымасці ў будучым".

Працавалі дэлегацыі з Гародні, Мінска, Масквы, Санкт-Пецярбурга, Смаленска, Харкава, іншых гарадоў краін СНД. Па незалежных ад арганізатараў канферэнцыі прычынах не змаглі прыехаць на канферэнцыю дэлегацыі з Польшчы і Чэхіі.

Лідэр украінскага аб'яднання "Новая Літаратура", прадстаўнік Украіны ў ПЭН-клубе Уладзімір Цыбулька, які прыехаў на канферэнцыю з Прагі з чарговай нарады гэтай сусветнай пісьменніцкай арганізацыі, акцэнтаваў увагу на неабходнасці новага яднання на новых праграмах, "пры якім прыватныя праграмы скарыстоўвалі б агульны славянскі культурны пласт".

У дакладах узнімаліся праблемы кантактаў паміж рознымі літаратурнымі суполкамі, эстэтычныя, агульнакультуралагічныя.

На думку Старшыні міжнароднага творчага аб'яднання "КЭПНАС", Аляксандра Голубева, канферэнцыі такога кшталту на інтэлектуальным і агульнаметадалагічным узроўні ў Расіі ўдаецца правесці не часцей як раз на год — два.

Вялікую цікавасць выклікаў даклад Мікалая Байтава "Літаратура ва ўмовах рынку", у якім быў ускрыты механізм татальнага ўплыву рынку на літаратуру.

Таксама ў эпіцэнтр увагі ўдзельнікаў трапілі даклады Юрася Барысевіча "Літаратура і шызафрэнія", Германа Лукомнікава "Паліндрамічнае мастацтва", Аляксандра Голубева "Трансрэалізм".

Генератарам актыўных дыскусій, якія працягваліся і ў кулуарах пасля заканчэння часавага ліміту працоўных паседжанняў сталі спавешчанні Сяргея Мінскевіча і Алеся Туровіча, прысвечаныя літаратурнаму напрамку — транслагізму. Рэдактар маскоўскага часопіса "Вавілон" Зміцер Кузьмін звяртаў увагу на сімвалічнасць таго факта, што напрамак пераймае традыцыю Сімяона Полацкага і маніфестуецца на радзіме класіка, аднак жорстка крытыкаваў за праяўленае ў дакладах неканкрэтнае размежаванне паміж ідэямі сукупнасці сістэмы і проста сістэмы. Рэдактар часопіса "Украінскі Засів" Ігар Бондараў-Тэрэшчанка казаў пра некарэктнасць крытыкі з абстрактных пазіцый з'яў, якія маюць выражаны нацыянальны кантэкст.

Сярод вынікаў канферэнцыі была ўсвядомлена неабходнасць змацавання выяўленых кантактаў. Так, пачалася праца над арганізацыяй наступнай канферэнцыі, прысвечанай лакальнай паэтычнай з'яве — паліндрому і формам нелінейнай паэзіі. Мяркуецца правесці яе ў Мінску, з удзелам прадстаўнікоў транслагізму (Сяргей Мінскевіч, Алесь Туровіч, Мінск), трансрэалістаў ( каардынатар — Аляксандр Голубеў, Смаленск), вядучых даследчыкаў па паліндрамістыцы (Герман Лукомнікаў, Масква). Украінскія паэты Сяргей Жадан і Ігар Бондараў-Тэрэшчанка ўзяліся наладзіць кантакты з зацікаўленымі арганізацыямі ў сваёй краіне, у першую чаргу суполкай ЛАГАСАТ. Зараз вядзецца актыўны пошук спонсараў праграмы і патэнцыяльных удзельнікаў.

Можна з поўнай адказнасцю казаць пра тое, што на тэрыторыі былога СССР з'явіўся моцны культурны цэнтр Полацк, які, як пажартаваў Юрась Барысевіч, стаў духоўным адпаведнікам Белавежскай Пушчы.

**М.Т.**



Пяць дзён у Віцебску доўжыўся 8-ы Міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі. Асноўнай падзеяй яго стаў нацыянальны конкурс, задачай якога было выявіць агульную карціну сучаснай харэаграфіі Беларусі і выбраць лепшы калектыў, які будзе прадстаўляць нашу краіну на наступным фестывалі.

У перапынках паміж конкурсамі ўрокі майстэрства давалі славутыя харэографы Масквы, Екацярынбурга, Францыі, Нямеччыны. Пераможцамі сталі фольк-тэатр "Госціца" з Мінска і група "ТАД" з Горадні.

*На здымку:* сцэна з балета "ТАД" у выкананні групы "ТАД".

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ**

## ПРАГРАМА — У ДЗЕЯННІ

Беларускі фонд культуры распачаў доўгатэрміновую праграму "Бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры". Не дэманстратыўна, не на паперы. І не толькі сціплую матэрыяльную дапамогу атрымліваюць ад грамадскай арганізацыі ўстановы культуры. Пленумы, прэзідыумы, конкурсы, як і сустрэчы дзеячаў культуры і мастацтва з бібліятэкарамі рэспублікі праходзяць таксама не фармальна.

Вось і нядаўна ў мінскай абласной бібліятэцы імя Пушкіна адбылася сустрэча лепшых бібліятэкараў Міншчыны. Яны абмеркавалі свае праблемы, падзяліліся вопытам працы, выказалі прапановы. У сустрэчы бралі ўдзел прадстаўнікі праўлення Беларускага фонду культуры, Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Міністэрства культуры і друку рэспублікі.

**Валянціна КУДРАЎЦАВА**

## "ЧЫТАЮ САМ І РАЮ ІНШЫМ..."

*Вось, бадай, і скончылася падпісная кампанія, абвешчаная на першую палову 1995 года. Вядома ж, нас заўсёды цікавяць думкі прыхільнікаў "Культуры" пра выданне, якое мы выпускаем у свет кожны тыдзень. Але паколькі прэса ў нашай краіне не настолькі свабодная, як таго патрабуюць сусветныя стандарты свабоды слова, нам не можа быць абыякавым стаўленне ўлады да газеты.*

*З пытаннем — "Ці прыцягвае на рынку падпісных выданняў Вашу чытацкую ўвагу газета "Культура"? — мы звярнуліся да начальніка ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі пры Прэзідэнце Беларусі Аляксандра ФЯДУТЫ.*

— Так, прыцягвае, — адказаў па тэлефоне наш суразмоўца. — "Культуру" пастаянна чытаю прыкладна год. Чытаю і заўважаю, што большасць матэрыялаў, надрукаваных на яе старонках, так бы мовіць, адпавядаюць той задачы, якую і ставіла перад сабой газета — быць грамадска-асветніцкай. Гэта я да таго, што, на жаль, большасць нашых газет празмерна запалітызаваныя. І гэта тычыцца не толькі грамадска-палітычных выданняў, а і, да прыкладу, нашай адзінай літаратурнай газеты. Я, як чытач, раіў бы і іншым часцей звяртацца да "Культуры", дзе можна знайсці не толькі асэнсаванне культурнай і гістарычнай праблематыкі, але і адлюстраванне сацыяльных аспектаў жыцця, з дапамогай газеты быць сведкай станаўлення маладой беларускай філасофіі, што не можа не выклікаць цікавасці...

## СЛОВА АБ БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

27 кастрычніка 1994 .г. адбылася сустрэча Рады Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Санкт-Пецярбургу з народным дэпутатам Беларусі, старшынёй БСДГ сп.Алегам Трусавым. Пецярбургскіх беларусаў цікавіла ўсё: і палітычнае, і эканамічнае становішча на роднай зямлі, і сітуацыя ў галіне культуры. З прыемнасцю ўспрынялі мы паведамленне аб жаданні Беларускага дзяржаўнага універсітэта перавесці выкладанне ўсіх дысцыплін на беларускую мову. Добрай ілюстрацыяй да аповяду сп.Трусава сталі новыя беларускія кнігі, якія ён перадаў членам Рады: зборнік публіцыстыкі Міхася Ткачова, палітычная біяграфія Станіслава Шушкевіча, публіцыстыка і лірыка Ніла Гілевіча.

У сваю чаргу сябры Рады Валянцін Грыцкевіч і Мікола Нікалаеў пазнаёмілі прысутных з планам, паводле якога ў горадзе на Няве на базе тэатра імя Ленсавета ствараецца Беларускі міжнародны цэнтр. Алег Язвіцкі расказаў пра тое, як ідзе рамонт царквы Дабравешчання, што перададзена беларускай праваслаўнай абшчыне ў Санкт-Пецярбургу. У гутарцы бралі ўдзел мастак Іван Чарнякевіч, пісьменнікі Анатоль Кірвель і Аўгіння Кавалюк, навукоўцы Лявон Навасельскі і Лявон Кавалюк.

**Мікола НІКАЛАЕЎ**
г.Санкт-Пецярбург



У снежні беларускае кіно адзначыць сваё 70-годдзе. Гэтыя гады падаравалі нямала поспехаў. А такія рэжысёры, як Ю.Тарыч, В.Тураў, І.Дабралюбаў, В.Рубінчык, М.Пташук і многія іншыя знайшлі сабе славу цікавых, творчых асоб.

І цяпер, у наш нялёгкі, поўны праблем час на студыі працягваюць ствараць новыя фільмы. Асабліва цікавыя тыя, што звязаны з гісторыяй беларускай дзяржавы і распавядаюць пра нашыя нацыянальныя карані.

*На здымку:* сцэна з новага фільма "Аз воздам", прысвечанага філасафу і асветніку XVI стагоддзя Казіміру Лышчынскаму.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛІНФАРМ**

## "З БЕЛАРУСАМІ НАС — ДЗЕСЯЦЬ МІЛЬЁНАЎ"

Амаль за месяц да гэтай падзеі па ўсіх Баранавічах былі змешчаны абвесткі аб тым, што ў філіяле бібліятэцы № 1 (загадчыца Алена Кім) грамадскасць і літаратурна-музычная гасцёўня "Крыніца" (кіраўнік Генадзь Гапановіч) будуць праводзіць першае з цыкла сваіх мерапрыемстваў — вечарыну для мясцовых татараў і іх беларускіх сяброў пад назвай "Сялям алейкум — Алейкум ас-сялям!" ("Мір вам — і вам мір таксама!"). У праграме вечарыны гутарка пра 600-годдзе сумеснага жыцця і згоды татараў на зямлі Беларусі, агляд выставы кніг, часопісаў і газет з матэрыяламі пра татараў, аповяд пра ўзаемадзеянне татараў з беларусамі, віктарына, прысвечаная гісторыі, літаратуры і культуры беларускіх татараў, песні і вершы мясцовых беларускіх паэтаў і музыкантаў.

І вечарына адбылася, яна стала падзеяй у жыцці горада. Супрацоўнікі філіяла-бібліятэкі № 1 гожа, з выдумкай, любоўю, прафесійна аздобілі сваю чытацкую залу. Выстава літаратуры атрымалася запамінальнай, як і аповяд пра яе, змястоўнай і вельмі цікавай. Зразумела, у цэнтры яе былі найбольш папулярныя ў татараў паэты Габдула Тукай і Муса Джаліль. Былі на выставе шматлікія кнігі і артыкулы, напісаныя беларускім літаратарам Сцяпанам Александровічам. Прычым, гэта ён найбольш зрабіў для вывучэння таго, што стварыў калісьці мясцовы жыхар — Паўлюк Багрым.

У госці да гараджан, да мясцовых татараў і іх сяброў прыехалі прадстаўнікі Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" — член праўлення згуртавання, аўтар беларуска-крымскататарскага слоўніка, падпалкоўнік, ветэран Вялікай Айчыннай вайны Ісмаіл Меметаў, намеснік муфтыя Ісмаіл Варановіч, намеснік прэзідэнта "Аль-Кітаба", дацэнт Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта Ібрагім Канапацкі, арганізатар квартальніка "Байрам", які друкуецца на беларускай мове, Якуб Якубоўскі.

Атрымалася шчырая гутарка пра тое, як жывецца татарам на Беларускай зямлі, на зямлі Баранавіцкай акругі, пра ўнёсак татараў у агульную скарбонку нашай Бацькаўшчыны. Разам з мясцовымі паэтамі і музыкамі Браніславай Лапкоўскай, Генадзем Гапановічам, Аляксандрам Драздом і іншымі госці з Менска ўзялі ўдзел у сумоўі, дэкламавалі вершы, спявалі песні.

У сваім слове госць з Менска Ібрагім Канапацкі ў прыватнасці сказаў: "Дзякуй арганізатарам гэтай імпрэзы. Нас, татараў, на Беларусі маленькая жменька — крыху больш за 12 тысяч чалавек, гэта адна дзесятая працэнта ад усяго насельніцтва краіны, але жывем тут ужо даўно, амаль што 600 гадоў. І жывецца нам тут добра, бо ў нас многа сяброў і амаль няма ворагаў, а калі і ёсць, то гэта ворагі Беларусі, а з беларусамі разам нас амаль 10 мільёнаў".

Пасля вечарыны адбылася яшчэ адна падзея — арганізацыя мясцовай абшчыны татараў-мусульман са сваім Статутам, радай і рэвізійнай камісіяй.

Вечарына і арганізацыйны сход татараў-мусульман вяліся на беларускай мове — роднай мове беларускіх татараў.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ,**
**правадзейны член**
**Геаграфічнага таварыства,**
г.Баранавічы

## ДЗЕЯЧЫ КУЛЬТУРЫ "СУПРАЦЬ". А ХТО "ЗА"?

Пад эгідай Сусветнай арганізацыі аховы здароўя штогод ва ўсім свеце 1 снежня адзначаецца Сусветны дзень прафілактыкі СНІД. У Мінску ўжо трэці год запар Рэспубліканскім цэнтрам прафілактыкі СНІД сумесна з Міністэрствам культуры праводзіцца дабрачынная акцыя:"Дзеячы культуры і мастацтва супраць СНІД". Мэта акцыі — прыцягнуць увагу грамадскасці да праблемы СНІД. У гэтым годзе ў акцыі бяруць удзел вядучыя творчыя калектывы рэспублікі, тэатры, студэнцкія калектывы.

1 снежня ў Дзяржфілармоніі адбудзецца канцэрт ансамбля "Сябры", на які запрошаны прадстаўнікі міністэрстваў і ведамстваў, грамадскасць, якія прымалі актыўны ўдзел у падрыхтоўцы Дня прафілактыкі СНІД.

**В.Глазоўскі,**
**галоўны ўрач Рэспубліканскага**
**цэнтра прафілактыкі СНІД**



У мінскім Палацы спорту прайшоў міжнародны фестываль спартыўнага бальнага танца. У гэтых спаборніцтвах прынялі ўдзел 107 танцавальных пар з Беларусі, Літвы, Малдовы, Расіі, Украіны. Свята прыйшлося даспадобы мінчукам і гасцям сталіцы.

*На здымку:* адкрыццё фестывалю.

**Фота Генадзя Сямёнава, БЕЛІНФАРМ**

СІТУАЦЫЯ

# СУМНАЕ ПРАВІНЦЫЙНАЕ НАДВОР'Е

Калі скажу, што з нецярплівасцю чакаю вольнага дня ці свайго адпачынку, каб хутчэй спакаваць торбы ды сарвацца са сталіцы пагасцяваць да сяброў, у якое мястэчка беларускай глыбінкі, думаю, будзе няпраўдай. Не ад таго, што паспеў урасці ў мінскае жыццё, прызвычаіцца да пастаяннага шуму, гулу, людскога натоўпу, — у чым ёсць свае значныя мінусы. Не. Бо папросту не хочацца ехаць у дрэннае надвор'е...

І зноў не ад таго, што там, за буйным горадам не так ярка свеціць сонейка, ідуць праліўныя дажджы, і, як у сорак першым, трашчаць маразы. І ўвогуле прыродныя з'явы тут ні прычым. У адным кліматычным поясе ж жывем. Дрэннае надвор'е адчуваецца па тварах і настроях жыхароў правінцыі, успаміны якіх падзяляюцца на тое, што было, і на тое, чаго ўжо няма і напэўна ніколі не будзе. Такое ўражанне, што жыццё ў правінцыі даўно запаволіла сваю хаду. Калі? Пяць, дзесяць, дваццаць гадоў таму?

— А памятаеш?.. — пытаюцца ў мяне ў старажытным Быхаве.

І я ўжо ведаю свой адказ на незакончанае пытанне. Не, я не памятаю капеечнага віна і рублёвай кілбасы, настальгію па якіх у нас культывуюць праграмы "L-клуба".

А людзі яшчэ жывуць тымі цэнамі, калі можна так сказаць, тымі каштоўнасцямі. Тым часам, калі ад сталіцы можна было заехаць за пяць рублёў, як на таксі, так і на міжгародні́м аўтобусе, — без розніцы.

Ці варта абвінавачваць іх у гэтым? Гэта ўсё, што перайшло ім у спадчыну ад постсавецкіх часоў. Без якіх там набыткаў сённяшніх — гэта ўспаміны. Бо ўзамен наш чалавек з глыбінкі за сваю непасільную працу атрымліваў толькі мізэрны аклад. На большае ён і не разлічваў. Ну, акрамя як самай таннай электраэнергіі, бясплатнага навучання і медыцынскага абслугоўвання (бясплатнае рэдка бывае якасным). Зараз і гэта для многіх стала праблемай. Наступае час, калі жыць (проста жыць) сапраўды робіцца раскошай.

Але і выказванне: "не было шчасця, дык няшчасце дапамагло", — можна аднесці і да быхаўчукоў, таму што Быхаў пацярпеў ад аварыі на ЧАЭС, і яны карыстаюцца пэўнымі льготамі. Толькі ж шчасця такога нікому не пажадаеш. Адно, дзякуй, хоць водпуск неабходных медыкаментаў ажыццяўляецца бясплатна пенсіянерам і хворым пры наяўнасці рэцэпта.

А тым часам дзіцячая смяротнасць у горадзе над Дняпром складае сем працэнтаў. Многа гэта ці мала, можна меркаваць па сухіх радках статыстыкі. За першае сёлетняе паўгоддзе на свет з'явілася 235 малых быхаўчукоў. За гэты ж час усяго памерла 495 чалавек. На кожнага нованароджанага — па два памерлых... Вельмі сумная статыстыка...

Ды і зразумела, аднымі лекамі не наясіся. А вось якраз нармалёвай, экалагічна чыстай ежы тут і не стае. Усё з базару, уласнага падвор'я ды раённых калгасных палеткаў, набітых радыенуклідамі. Ад таго ў юных гараджан зніжаны імунітэт, выяўляюцца захворванні, дагэтуль незнаёмыя. Трэба параўнальная статыстыка, але яе няма.

Каб хоць неяк паправіць сваё здароўе, ды што там — проста падыхаць чыстым паветрам, быхаўскія школьнікі перыядычна на працягу года цэлымі класамі накіроўваюцца на аздараўленне як у краіны блізкага, так і далёкага замежжа.

У час навучання харчаванне для школьнікаў увогуле бясплатнае. Толькі ж калі яно бясплатнае, то і зразумела, якое па якасці, — школьны асартымент не радуе вока і страўнік сваёй разнастайнасцю. Асабліва паступаюць нараканні ад бацькоў другой (нядаўна ўведзенай у строй) і чацвёртай сярэдніх школ. А ўсяго іх у Быхаве пяць. Праўда, былі аднойчы ў мясцовых навучэнцаў, што называецца, і "святы страўнікаў", калі ў мінулым месяцы на працягу тыдня ўсе гарадскія школы "трэслі" нейкія высокія камісіі.

Але ж хто з малых па стане здароўя (зноў жа пры прадастаўленні адпаведнай даведкі) не можа харчавацца ў школе, атрымлівае на рукі талоны на абеды. Дзеці ж, вядома, часцей за ўсё гэткую своеасаблівую валюту пускаюць у абарот па-свойму: абменьваюць не на занадта цвёрдую, але на сваю родную драўляную, за якую можна яшчэ тое-сёе набыць. Жменю жавальных гумак, напрыклад. Дарэчы, гандлярам адзінага стабільна працуючага "камка", менавіта з дапамогай малых, удаецца выконваць план. Бо, па-першае, знаходзіцца ён у цэнтры горада па вуліцы Леніна, а па-другое, насупраць СШ № 1.

Быхаўчукі не бачаць на паліцах мясцовых крамаў такога выбару тавараў, як мы ў сябе ў сталіцы. Ад чаго і пакутуем. Хлеб, малако, якая кансервіна з мясцовага садавіна-гародніннага завода, пасінелае і напалову высушанае, без ахалоджвання кураня — звычайная карціна, якую штодзённа назіраюць у гарадскіх крамах жыхары Быхава.

А некалі ж, зусім нядаўна, Быхаў быў адзін з лепшых на Магілёўшчыне па забеспячэнню харчовымі таварамі. Настолькі, што сюды (праз горад пралягае чыгунка, а ў колькі кіламетрах шумная аўтамагістраль Санкт-Пецярбург — Адэса) за пакупкамі з'язджаліся жыхары Светлагорска, Рагачова, Гомеля...




Фота Жаны МАЁРАВАЙ

Зараз яны таксама частыя госці ў горадзе над Дняпром. Толькі ўжо самі вязуць сюды свой тавар. Цэлымі машынамі: яйкі, птушку, сметанковае масла... І прадаюць ніжэй цэнаў, устаноўленых у крамах і мясцовымі жывёлаводамі на калгасным базары. Такіх гасцей быхаўчукі сустракаюць з расхрыстанымі рукамі.

Тое, што яны бачаць у гарадскім гандлі, даўно ўжо стала не па кішэні. У Быхаве на мяжы спынення некаторыя прадпрыемствы, месяцамі не выплочваюць заработную плату. А таму шмат тавараў застаецца незапатрабаванымі. З цягам часу тавар губляе сваю якасць, як гэта здарылася амаль месяц таму з мяснымі вырабамі, што спісалі і выкінулі на сметнік. Штосьці каля паўтоны. Па Быхаву ў адно імгненне пракаціліся чуткі: убралі з вачэй, каб зноў, напэўна, перад якой рэвізіяй не засвяціцца. І чакалі прадстаўнікоў каманды Лукашэнкі, якія зноў, па тых жа чутках, нібыта павінны зазірнуць у раён...

Быхаў па-сапраўднаму ажывае ў нядзелю. Людзі накіроўваюцца на калгасны базар. Большасць ад няма чаго рабіць — сябе паказаць і на іншых паглядзець, дый лішні раз цэнам жахнуцца, — будзе што хатнім распавесці.

Горад ажывае і... хутка заціхае. Ці не роўна апоўдзень. Якіх новых уражанняў ад дня чакаць ужо не даводзіцца.

Гэта раней часта хадзілі адзін да аднаго ў госці, у кіно. Тое, што культурнае жыццё рухаецца наперад, — гэта не пра Быхаў.

Зразумела, тут няма свайго Вялікага опернага, нацыянальнага драматычнага, але і няма тут нават прасцейшага для правядзення вольнага часу — хаця б кавярні да позняга вечара. "Дыскатэка à la Марына Жураўлёва", выбачайце, не для ўсіх. Камерцыйныя структуры, якія б маглі заняцца гэтай праблемай, развіты вельмі слаба. У гарадскіх уладаў да такіх дробязей рукі не даходзяць. Як не даходзяць у іх рукі да адзінага ў Быхаве парку адпачынку, куды яшчэ гадоў пятнаццаць таму бацькі вадзілі сваіх малых на каруселі-арэлі. Зараз не водзяць. Дзіцячых забаў тут даўно ўжо няма. Парк у заняпадзе.

Яшчэ ў гады перабудовы раённыя камсамольскія лідэры запаліліся задумай стварыць алею памяці землякоў, загінуўшых у Афганістане. Нават месца выбралі ў цэнтры горада, каля возера, што непадалёку ад раённага Дома культуры. Толькі возера, што стварыла сама матухна-прырода, таксама ўжо няма. Камсамольцы, парушыўшы экалогію, яго высушылі. На тым справа і скончылася.

Амаль такім жа чынам у свой час загубілі альбо прывялі да заняпаду камуністы быхаўскі палац, сінагогу, каталіцкі касцёл...

... Горад пачаў эканоміць на ўсім. Нават увечары прайсціся — страшнавата робіцца. На гарадскіх вуліцах цёмна — хоць вока прэч. У камунальных службаў заўжды нейкія праблемы.

У бліжэйшы час усур'ёз можа стацца, што не будзе як аказваць хуткую медыцынскую дапамогу. Раённая служба "03" — сама даўно просіць аб дапамозе. З сямі машын — чатыры даўно ўжо адслужылі свой век. Станцыя хуткай дапамогі чатыры гады не атрымлівала элементарнага — запчастак. Увесь рамонт вадзіцелям даводзіцца выконваць за свой кошт.

Былі выпадкі, калі "хуткая" не аказвала жыхарам раёна дапамогі па два дні з-за адсутнасці паліва. Колькі часу таму атрымала райбальніца, як адна з лепшых у вобласці, так званую гуманітарную дапамогу — амбулаторыю на колах — аўтамабіль "Таёта".

Але медыкі ад яе былі вымушаны адмовіцца, маўляў, не падыходзіць да нашага бездарожжа. Мне думаецца, гэта не дужа аб'ектыўная прычына: не такія ўжо на Быхаўшчыне і жудасныя дарогі, — у параўнанні з іншымі раёнамі. Затое, зноў жа па чутках мясцовых жыхароў, на замежным аўто раз'язджае адзін з быхаўскіх чыноўнікаў...

... Дрэннае надвор'е адчуваецца ва ўсім... Днямі зноў затэлефанавалі сябры з горада над Дняпром, запрасілі пагасцяваць. Я не ведаю, што рабіць. Я не хачу ехаць у дрэннае надвор'е...

**Погляд са сталіцы**
**Міхася РАВУЦКАГА**

# ВУЧЫЦЦА Ў РАЗУМНЕЙШЫХ

***Нядаўна адбыўся рабочы візіт дэлегацыі Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па прамысловасці і паслугах насельніцтву ў Францыю. У падрыхтоўцы яго прымалі ўдзел амбасада Францыі на Беларусі, французская навукова-адукацыйная фірма AGORA FRANCE і Міжнародная асацыяцыя "Беларусь-Францыя". Падчас знаходжання дэлегацыя наведала Нацыянальную Асамблею (французскі парламент), дзяржаўнае агенцтва па зберажэнні энергіі, азнаёмілася з работай буйных французскіх карпарацый і банкаў, фінансавай палітыкай Францыі.***

***Пра візіт беларускіх парламентарыяў расказвае дэпутат Вярхоўнага Савета, сакратар Камісіі па прамысловасці і паслугах насельніцтву, прэзідэнт асацыяцыі "Беларусь-Францыя" Уладзімір НОВІК:***

— У Нацыянальнай Асамблеі наша дэлегацыя была прынята спадаром Жанам дэ Буаю — старшынёй французска-беларускага камітэта ў Нацыянальнай Асамблеі. Жан дэ Буаю з'яўляецца таксама мэрам горада Брэціні-сюр-Ош, што на поўдні ад Парыжа. У парламенце адбылася сустрэча з французскімі дэпутатамі і іх памочнікамі. Члены беларускай дэлегацыі азнаёміліся з рэгламентам работы французскага парламента, а таксама практыкай ўзаемадзеяння французскіх калег з прадстаўнікамі выканаўчай улады, прамысловых колаў і палітычных



партый. Спадар Жан дэ Буаю даў абед у гонар беларускай дэлегацыі.

Праграма знаходжання ў Францыі пасланцаў Беларусі была напружанай, вельмі цікавай і змястоўнай. Мы сустрэліся з прадстаўнікамі партыі РПР (Аб'яднання ў падтрымку Рэспублікі), у прыватнасці, з мадам Шанталь Пласід, якая адказвае за развіццё сувязі партыі РПР з краінамі Усходняй Еўропы. Дарэчы, спадар Жан дэ Буаю належыць да фракцыі РПР у французскім парламенце. Старшынёй партыі з'яўляецца вядомы палітычны дзеяч Жак Шырак, мэр Парыжа. Ён выстаўляўся кандыдатам на прэзідэнцкіх выбарах у Францыі ў 1981 і 1988 гадах, але тады перамог Франсуа Мітэран. У 1995 годзе ў Францыі адбудуцца чарговыя прэзідэнцкія выбары, і Жак Шырак зноў збіраецца браць удзел у прэзідэнцкім марафоне. Шырак выступае за больш цеснае супрацоўніцтва з усходнееўрапейскімі краінамі.

Францыя — прэзідэнцкая рэспубліка. Парламент складаецца з дзвюх палат: ніжняя — Нацыянальная Асамблея, верхняя — Сенат. Нацыянальная Асамблея выбіраецца ўсім насельніцтвам краіны па мажарытарнай сістэме тэрмінам на 5 гадоў, а Сенат — калегіяй выбаршчыкаў на 9 гадоў, які абнаўляецца на адну трэць кожныя тры гады. Калегія выбаршчыкаў складаецца з дэпутатаў Нацыянальнай Асамблеі, генеральных і муніцыпальных саветнікаў. Зараз Францыя перажывае перыяд 5-й рэспублікі, Канстытуцыя якой была прынята ў 1985 годзе і якая пашырыла правы выканаўчай улады ў супрацьвагу заканадаўчай. На палітычнай арэне краіны прысутнічаюць ярка выразныя "левыя" (прыблізна 15 мандатаў у Нацыянальнай Асамблеі), "цэнтрысты" (каля 5 працэнтаў) і "правыя" прыблізна 80 працэнтаў). Левыя партыі знаходзяцца зараз у апазіцыі.

"Левыя" — гэта сацыялісты на чале з прэзідэнтам Францыі Франсуа Мітэранам і камуністы на чале з Жоржам Маршэ. Яны маюць уплыў на прафсаюзы і абапіраюцца галоўным чынам на людзей наёмнай працы. Да "правых" адносяцца прадстаўнікі партыі РПР, узначальваемыя Жакам Шыракам, Саюз за Французскую дэмакратыю, якім кіруе Валеры Ж. Д'Эстэн, і іншыя палітычныя сілы, што абапіраюцца на дробную, сярэднюю і буйную буржуазію.

Наша дэлегацыя азнаёмілася з работай аднаго з буйнейшых французскіх банкаў BANQUE NATIONALE DE PARIS (BNP). Падчас сустрэчы французскія банкіры адзначылі, што галоўным дэвізам іх дзейнасці з'яўляецца асцярожнасць. Перад тым, як выдаць крэдыт, банк дасканала вывучае не толькі свайго кліента, але і рынак тавараў, на вытворчасць якіх бярэцца крэдыт. Пасля гэтак жа дасканала вывучае ўмовы прадастаўлення крэдыту страхавая кампанія, якая будзе страхаваць крэдыт ад фінансавай, палітычнай і іншых рызыкаў. За крэдытнай палітыкай Францыі сочыць спецыяльны Нацыянальны Савет па крэдытах, Асацыяцыя французскіх банкаў, якія востра рэагуюць на адхіленні ў сферы грашова-крэдытнай палітыкі.

Банк (BNR) пачынае адкрываць свае прадстаўніцтвы ў краінах СНД. Галоўная задача іх — спрыяць росту экспарту французскіх тавараў у гэтыя краіны.

Для характарыстыкі эканамічнай сітуацыі Францыі варта прывесці некалькі лічбаў. Насельніцтва: 57,8 млн. чал. Валавы нацыянальны прадукт 700 млрд. франц. франкаў (прыблізна 1300 млрд. долараў ЗША) і складае каля 22500 долараў на чалавека ў год. Валавы нацыянальны прадукт — абагульняючы эканамічны паказчык, які выражае сукупную масу канчатковых тавараў і паслуг, створаных як ўнутры краіны, так і за яе межамі. Тут у якасці такога паказчыка прымяняецца ВНП, паколькі шмат тавараў і паслуг выпрацоўваецца за мяжой. Гадавы бюджэт на 1994 год складае 1500 млрд. франкаў (каля 280 млрд. долараў, што крыху болей 20 працэнтаў ад ВНП). Дэфіцыт дзяржаўнага бюджэту — каля 3 працэнтаў ад ВНП. Частка дэфіцыту дзяржбюджэту пакрываецца выручкай, што атрымліваецца ад прыватызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў.

Калі супаставіць гэтыя лічбы з нашымі, дык бачныя нашыя эканамічны крызіс і нават адсталасць.

Францыя мае вялікі вопыт у станаўленні дэмакратыі, рыначнай эканомікі, займае асобае месца сярод краін ЕС і НАТО і цесныя кантакты з яе заканадаўцамі могуць станоўча паўплываць на развіццё дэмакратыі і станаўленнне рыначнай эканомікі на Беларусі. На жаль, французскія палітыкі, не гаворачы пра простых грамадзянаў, вельмі мала ведаюць пра Беларусь. Парламенцкія кантакты і публікацыі ў беларускай і французскай прэсе маглі б паспрыяць росту нашых эканамічных і культурных сувязяў. Падчас сустрэч французскім дэпутатам была падорана мая кніга "Беларусь: новая краіна ва Усходняй Еўропе" — пакуль адзінае выданне пра нас на французскай мове...

Падсумоўваючы вынікі візіту, хацелася б адзначыць, што нам варта было б пры прыняцці законаў не капіраваць толькі расійскія "канструкцыі" і "загатоўкі", а больш уважліва вывучаць вопыт тых, хто значна апярэдзіў краіны Усходняй Еўропы ў стварэнні трывалай дзяржаўнай канструкцыі і высокаразвітага эканамічнага і культурнага асяроддзя для працоўнай дзейнасці і жыцця чалавека.

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

МАСТЫХІН



# СВЯТЛО ЯГО ЖЫЦЦЯ

Ёсць людзі, якія нават і пасля сваёй смерці нібы выпраменьваюць святло. Успаміны пра жыццё, пра ўсё тое, што створана імі, сагравающь сэрца. Такім чалавекам быў пляменнік Янкі Купалы, мастак Янка Раманоўскі (1928 —1974). Яму было наканавана лёсам сорак пяць гадоў, ён пайшоў з жыцця зусім маладым, поўным творчых задум, імкненняў і надзей. Ягоная маці была Леакадзія Дамінікаўна Раманоўская, малодшая і любімая сястра Янкі Купалы.І выхоўваўся Янка ў сям'і вялікага песняра. Пазней, ствараючы альбом вядомых літаграфій аб жыцці і творчасці Янкі Купалы, мастак Раманоўскі на першым яго аркушы напісаў:

"Янка Купала ў маім сэрцы з самых ранніх дзіцячых гадоў. А яны прайшлі ў сям'і Купалы, майго роднага дзядзькі...Яшчэ малы я любіў маляваць, і дзядзька Янка быў маім першым настаўнікам і дарадчыкам...

Успамінаючы пра Янку Купалу, простага абаяльнага чалавека і ў той жа час вялікага мастака, загараюся я жаданнем паказаць яго такім, якім застаўся ён у маёй памяці".

Сёлета споўнілася 20 гадоў, як мастака няма з намі. У Дзяржаўным Літаратурным музеі Янкі Купалы прайшоў вечар памяці беларускага мастака Янкі Раманоўскага.

Мастакі і пісьменнікі, настаўнікі і журналісты, навукоўцы, родныя і блізкія, студэнты і навучэнцы сабраліся ў музеі, каб добрым словам ушанаваць памяць таленавітага мастака, прайсці сцежкамі яго жыцця, дакрануцца да галінкі магутнага купалавага дрэва.

Да вечара былі наладжаны дзве выставы: мастацкая — з фондаў Дзяржаўнага Літаратурнага музея Янкі Купалы і дакументальная — "Талент чалавечай дабраты" з асабістага архіва родных і блізкіх мастака. Тыя, хто прыйшоў на вечар памяці, апынуліся ў атмасферы тых гадоў, калі ствараліся жывапісныя і графічныя работы мастака, у атмасферы купалавай творчасці. Таму што свой талент Янка Раманоўскі прысвяціў жыццю і творчасці Янкі Купалы, паэзію якога ён любіў з самага дзяцінства, спасцігу маладыя гады і адлюстраваў, стаўшы мастаком.

Мабыць, упершыню паказаны дакументы і матэрыялы з жыцця Янкі Раманоўскага. Вялікую каштоўнасць уяўляюць фотаздымкі 30-х гадоў: Янка ля дачы паэта ў Ляўках, малы Янка на беразе Дняпра. А вось Янка з маці, сястрой Купалы, са сваімі сёстрамі і братам. Нейкае хваляванне ахоплівае, калі ўглядаешся ў гэтыя фотаздымкі, у твары людзей, якія былі такімі блізкімі да Купалы.

Шматгадовае сяброўства звязвала Янку Раманоўскага з беларускімі пісьменнікамі. У выставе — іх кнігі з аўтографамі мастаку. І пра гэтае сяброўства шмат гаварылася на вечары памяці Янкі Раманоўскага Арленам Кашкурэвічам, Людвігам Асецкім, Кастусём Цхановічам, Іллёй Немагаем, Уладзімірам Басалыгам, Пятром Драчовым, Рыгорам Барадуліным.

На вечары памяці прагучаў і голас мастака, некалі запісаны ў музеі, гучалі ўспаміны пра Ляўкі, пра Янку Купалу, і гэта надало асаблівую пранікнёнасць і цеплыню падзеі.

**Ф.ВАДАНОСАВА, загадчыца навукова-экспазіцыйнага аддзела Дзяржаўнага Літаратурнага музея Янкі Купалы**

## НА РАДАСЦЬ ДЗЕЦЯМ І ДАРОСЛЫМ

У Віцебску ў будынка, дзе за бальшавіцкім часам месціўся гаркам іхняй партыі, — новы гаспадар. Гэта тэатр "Лялька". На нядаўнім міжнародным фестывалі "Інтэрлялька-94", што праходзіў ва Ужгарадзе, віцебскія лялечнікі занялі першае месца, апярэдзіўшы калег з Вугоршчыны, ЗША, Расіі, Румыніі, Сербіі, Украіны, Чэхіі. А галоўны мастак тэатра Аляксандр Сідараў (яго вы бачыце на здымку) стаў лаўрэатам прэміі імя Л.Мазалеўскай за сцэнаграфію спектакля "Загубленая душа".

**Н. К.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ**

## БЕЛАРУСЬ — ЗЯМЛЯ ЗАПАВЕТНАЯ

Лепшыя творчыя гады М.Шагал правёў на Беларусі. І за мяжою родны горад заставаўся з мастаком. Менавіта гэтую ідэю і ўвасобіла ў сваёй скульптуры С.Гарбунова: ля ног маладога Шагала — куткі старога Віцебска, фрагменты работ мастака. І думаецца, скульптура гэта, калі яна будзе ўстаноўлена ў амбасадзе Рэспублікі Беларусь у Дзяржаве Ізраіль, пастаянна будзе напамінаць, што як бы далёка ні закінуў лёс чалавека, няма ў яго зямлі даражэйшай за тую, дзе ён нарадзіўся.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛІНФАРМ**

## ВІЦЕБСК — НЯСВІЖ — МІНСК

Мастакі Марына Калінічэнка і Міхаіл Канавалаў жывуць у Нясвіжы. Абодва скончылі мастацка-графічны факультэт Віцебскага педінстытута. Ужо адбыліся тры сумесныя выставы. Апошняя — у Мінску, у карцінная галерэі Траецкага прадмесця.

**Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ**

## СУСТРЭЧА ПРАЗ СТАГОДДЗІ

Вялікая праца па збіранні, рэстаўрацыі і атрыбуцыі твораў мастацтва Беларусі XVII — XVIII стагоддзяў, якая праводзілася ў пасляваенны час у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, дазволіла ў 70 — 90-я гады правесці шэраг выстаў, прысвечаных рэстаўрацыйнай і стылістычнай эвалюцыі мастацтва Беларусі згаданага вышэй перыяду. З 1993 года музей арганізуе серыю выстаў, на якіх можна прасачыць рэгіянальныя асаблівасці мастацтва Беларусі.

У гэтым годзе і летась экспанавалася "Мастацтва Брэстчыны XVII —XVIII стагоддзяў" і "Іканапіс Гомельшчыны XVII — XVIII стагоддзяў". Сёлета была наладжана выстава "Мастацтва Віцебшчыны XVII — XVIII стагоддзяў". Тут прадстаўлены абразы з Нова-Тухіна, Юрцава, Латыгаля, Полацка, якія былі даследаваны яшчэ на пачатку нашага стагоддзя А.Іпелем і М.Шчакаціхіным. Упершыню можна было пабачыць абразы з Барані, Дзісны работы Васілевіча і Сілініча. Усе творы былі раскрыты рэстаўратарамі ў наш час да старажытных слаёў і пацямнелага пакосту, і, фактычна, упершыню гледачы атрымалі магчымасць пазнаёміцца з асаблівасцямі мастацтва гэтага рэгіёна.

**В.К.**

## ЧАРНОБЫЛЬ — ВЕЧНАЯ ТЭМА?

У музеі Максіма Багдановіча экспануецца чарнобыльскі цыкл Сяргея Давідовіча. Аўтар — непрафесійны мастак, але жывапісам займаецца ўжо пяць гадоў. Правёў некалькі персанальных выстаў. Яго мастацкія творы знаходзяцца ў прыватных калекцыях нашай краіны і шэрагу замежных. Сяргей Давідовіч — член Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэт.

**Наш кар.**










**ВАСІЛЬ ЛЮЦЬВЯГ**

# ДВА КРЫЎСКА-БЕЛАРУСКІЯ АБРЫЎКІ БЫЛІННАГА ЭПОСА

Героі і магуты становяць у народнай паэзіі пераход ад багоў да людзей, які пераход адбываўся ў моманты вялікіх гістарычных пераваротаў. Гэткі пераварот усходняе славянства перажывала ў X ст., калі старую веру замяніла новая, хрысьціянская вера. Эпічныя матывы і легенды ў гэтым часе, ад X да XIII, а можа і шмат пазьней, народная фантазія перанасіла на гістарычныя асобы. "Паэтычная творчасьць ад багоў і мітычных герояў зышла да звычайных сьмяротных, але спынілася толькі на вышэйшых прадстаўніках народу, на князёх, надаўшы ім мітычныя рысы знаёмых ідэалаў даўнейшага эпоса"*

У агульна-рускім былінным эпосе, які кружыцца каля кіеўскага князя Валадзімера, ёсьць сьляды, паказуючыя на існаваньне асобнага цыклю Крыўска-Беларускіх былін. Да гэткіх належаць легенда аб Волату Валатовічу і быліна аб Волху Усяславічу.

Легенда аб Волату Валатовічу бязпярэчна зьяўляецца легендай Крыўскага паходжаньня, а гэта на тэй падставе, што на ўсім абшары разсяленьня крыўскага племя капцы-магілы бронзавага веку народ называе "валатоўкамі", у якіх пахаваны, па пераконаньню народнаму, яго ў простай лініі прадзеды. Аб волатах існуе ў нашым народзе многа рожнародных легенд. Урэшце слова "волат" служыць дзеля абазначэньня вялікана, якой прыметай, як ведама, народы надзялілі сваіх продкаў, або даўшыхся ў памяць народу сільных заваёўнікаў. Прыкладам з найменьня народу Авараў — Обраў, утварылася польскае "olbrzym", з найменьня народу Спалаў расійскае "исполин", ад найменьня чудзь у валагодзкай губэрні ўжываецца слова "шчуд" — волат.

Легенду аб Волату-Валатовічу надрукаваў Буслаеў ("Русская народная поэзія" Т.1 СПБ. 1861 г. стр. 455 — 463). У гэтай легендзе мейсца, звычайнага ў былінах кн.Валадзімера заступае Волат-Валатовіч. Вотчаства ад імя гэроя, звычайна для эпічных магутаў. Гэтак у польскага Крака быў бацька Крак. "Калі герою хочуць выдумаць імя бацькі, то лепш за ўсё даць яму тое-ж імя, якое мае і сам герой. Гэтак атрымаў сваё імя Волат-Валатовіч". (Буслаеў 456).

Волат-Валатовіч вызначаецца ў легендзе нязвычайнай мудрасьцю: ён загадуе загадкі цару Давыду Іесеевічу, прапануючы яму вытлумачыць сны і пасьля Давыд пытае Волата аб пачатку сьвета, пасьля ізноў Волат загадуе Давыду аб пяршынстве розных рэчаў і ўрэшце, Давыд задае Волату, відаць, самае трруднае пытаньне, аб страшным судзе. Нягледзячы на пазьнейшыя апокрыфічныя абставіны, у якія пастаўлен Волат Валатовіч, — сама легенда выяўляе сабой старэйшую рэдакцыю Галубіннай кнігі, — ён істота нязвычайная, пануючая: над усімі сарака двумя царамі, якія зьехаліся на Сінайскую гару, "набольшым" быў Волат Валатовіч, "ты наш первы цар Волат-Валатовіч". Другі па ім быў Майсей-Майсеевіч, трэцьці Елісей-Елісеевіч і чацьверты — Давыд Іесеевіч.

"Калі б гэта повесьць сустрэцілася паміж стара-нямецкімі поэтычнымі творамі, то ніхто не сумляваўся-бы прызнаць яе за падноўлены ў хрысьціянскую эпоху эпізод вядомай песьні старой Эдды аб Вафтрудніру (Vaftrudnismal): так паражаюча падобнасьць абодвых гэтых твораў, паводле аснаўных сваіх эпічных матываў. Як Вафтруднір-волат з племя Іотаў, гэтак сама і Волат па значэньню свайго імя ёсьць вялікан. Іоты паўночнай міфалогіі сьлылі веданьнем ўсяго таго, што дзеялася з правеку, у пачатку. Дзеля гэтага Вафтруднір разьвязуе пытаньні космаганічнага характару, а сам задае Одыну пытаньні, датыкаючыя больш імён рожных рэчаў і асоб паўночнай міфалогіі. Гэтак і Волат адпавядае Давыду аб тым, чаму сьвятло сьвеціцца, з чаго сонца і зара, як ходзіць неба і начым апіраецца зямля; сам-жа ён пытае Давыда аб імёнах першага з народаў, зьвяроў, вазёраў, аб маці траваў, птахаў і г.п." (Буслаеў 456).

Змаганьнеся загадкамі ў Міфалогіі зазвычай мае вынік драматычны або цікуе якую колечы мэту. Трэба думаць, што ў першапачатковай рэдакцыі быліны аб Волаце гэтае змаганьне між мудрацамі мела акрэсьленую мэту. Пачатак легенды нават намякае на гэта, паказуючы на будучую жанідзьбу паміж іхнімі дзяцямі. Сын Давыда цар Саламон жэніцца з Саламанідай Валатоўнай і будзе валадзець царствам Волата.

"Асабліва важна для гісторыі народнага эпоса пасвачаньне Волата з Давыдам і Саламонам. Як у нашай павесьці Волат сват Давыду і цесьць Саламону, так паводле апавяданьня аб Кітаўрасе, гэты ваўкалака брат Саламону. І калі дапусьціць, што велікан Волат — прадстаўнік мітычных ваўкалакаў, Воўкаў, якія атрымалі гістарычнае існаваньне ў племю Велетаў, Вільцоў, Ваўчкоў; то Кітаўрас і Волат будуць аднаякімі істотамі: і той, і другі ваўкалакі" (Буслаеў 459).

Да гэтай легенды ўсім сваім зьместам прымыкае быліна аб ваўкалаку і чараўніку — (валхву) Волху Усяславічу. У Волхву Усяславічу ня трудна адгадаць гістарычную асобу, крыўскага князя чараўніка (валхва) Усяслава, унука Рагнеды. У летапісях гаворыцца, што Усяслаў радзіўся "от волхвованія", знача ад нейкага дзіўнага, чарадзейскага способу, не як усе людзі.

У быліне аб Волхву Усяславічу апавядаецца таксама нязвычайнае аб яго зачацьці:

*Ой па садзе зеляненькім хадзіла-гуляла,*
*Хадзіла-гуляла малада княжна,*
*Яна з камяшка скочыла,*
*на лютага зьмея —*
*Абвіваецца люты зьмей каля ножанькі*
*Каля ножанькі, шаўкоў назуткі,*
*Шаўкоў назуткі, каля бел-сьцягна.*
*От тады княжна дый зачэрала*
*А зачэраўшы дзяцё радзіла.*
*А на небе прасьвяціў ясны месік,*
*А на зямлі радзіўся вялікі магут,*
*Вялікі магут, малады Волх-Усяслаўевіч*
*Задрыжэла маці дый Сыра зямля,*
*А і сіня мора скалыбалася,*
*Што радзіўся на сьвет вялікі магут,*
*Малады князь Волх-Усеслаўевіч;*
*Рыба пашла ў марску — глыбіню,*
*Птахі ўзляцелі высока ў неба,*
*Туры і лосі за горы пашлі,*
*Зайцы — лісіцы па ўзлесачках,*
*А ваўкі — мядзьведзі па ельнічках,*
*Саболі — куны па востравах.*

Далей чытаемо ў летапісях, што Усяслаў на галаве меў нейкі знак, каторы валхвы сказалі маці павязаць павязкай, якую ён і насіў да канца жыцьця.

Авось як быліна апавядае аб адукацыі Волха-Усяславіча:

*І вучыўся Волх усіх мудрасьцяў:*
*А вучыўся ён першай мудрасьці*
*Абяртацца сакалом птахай борздаю;*
*А вучыўся Волх другой мудрасьці*
*Абяртацца дый шэрым воўкам;*
*Трэцяй мудрасьці вучыўся Волх*
*Абяртацца Турам гнядым залатыя-рогі.*

"Баян, пявец паходу кн.Ігара, умела зьліў у адно мастацкае цэлае элемэнт гістарычны з мітычным. У Баяна Усяслаў нятолькі гістарычная асоба, полацкі князь, які скочыў да Кіева і даткнуўся стружжом залатога Кіеўскага пасаду; але і вешчы аваpоцень, мудрэц, які: "людзём суды судзіў, князём гарады парадкаваў, а сам у ноч воўкам бегаў да Тмутараканя; вялікаму Хорсу воўкам шлях перабягаў". Немаль тое самае гаворыцца ў старасьвецкіх казках аб Кітаўрасе: "звычай той цар меў: у дзень царствуе над людзьмі, а ноччу абяртаецца зьверам кітаўрасам і царствуе над зьвярамі". Зара за гэтым гаворыцца аб борзкасьці Усяслава: ён у прадоўжаньні звону да ютрані пасьпяваў у Кіеў; "таму ў Полацку пазвоняць на ютраню, а ён у Кіеве звон чуе". Можа гэты сказ азначаць і чуткі слух, але ў кождым здарэньні ён адмячае цудоўную азнаку вешчага, нязвычайнага героя" (Буслаеў 390 — 91).

Галоўнымі азнакамі Волата-Валатовіча і Волха Усяславіча зьяўляюцца: а) мудрасьць, б) ваўкалацтва. Як ведама пракаветным жыхаром краю пазьней прыбыўшыя плямёны прыпісваюць таёмную сілу і веду. Гэтаму палажэньню адпавядаюць Іоты паўночнай міфалогіі і іх прадстаўнік Вафтруднір, а ў нас прадстаўніком племя мудрацоў зьяўляецца Волат-Валатовіч, а пазьней гістарычны волхв князь Усяслаў.

Этнографічныя данныя даюць нам довады, што суседзячыя з крыўска-беларускім народам — вялікарусы, украінцы, літвіны і ўрэшце палякі гэту апінію чараўнікоў і ведуноў па сягоняшні дзень прыпісваюць беларусам, асабліва-ж крэпка ўстанавілася за беларусамі, у вачах суседніх народнасьцяў, апінія ўменьня перакідацца самім і другіх перакідаць у ваўкалакаў.

Аб племю Воўкаў найдаўнейшая зьменка знаходзіцца ў Гэродота, які так апавядае: "У краю, на паўночны-захад ад выплываў Днястра, жыў народ Нэрвы. За сто гадоў да паходу Дарыя супроць Ськіфаў, яны прымушаны былі зьмеямі, якія часьцю расплодзіліся ў іхнім краю, часьцю якія прышлі з паўночных пушчаў, пакінуць свае папярэднія сялібы і шукаць прытулку ў суседняга і кроўнага ім племя Будынаў". Гэродот азначыў мейсца пасяленьня Будынаў з поўначы вялікай пушчай і аграмадным зборышчам вод, у якім "зборышчам вод" гісторыкі дабачаюць цяперашняе Палесьсе.

Паводле Шафарыка (Славянск. Старажытнасьці II) магутны славянскі народ Люцічы або Ваўчкі (Вълцы, Вълчкі, Вильцы) жыў у краю, дзе былі сялібы і племя Нэрваў, і гэты край называўся Вількомір (воўчы — мір).

Канстантын Парфірародны, апісуючы славянскія плямёны, якія жылі ў вярхох Дняпра, называе і Люцічоў (Доўнар-Запольскі — Очерк ист. Кривичской и Дреговичской земель). Вышэйсказанае дае падставу думаць, што ў ліку славянскіх плямён, лёгшых у аснову Крыўскага народу, былі і Люцічы, якія насілі такжа назову Велятаў або Волатаў. Ад іх то і асталіся капцы — валатоўкі і абрыўкі быліннага эпоса, які ў гістарычныя часы быў, як на патомка іх, перанесен на князя Усяслава.

---

* Буслаевъ. Русская поэзія XI и начала XII в. "Крывіч", № 6, 1926

**Публікацыя Уладзіміра АРЛОВА**






Андрэй ГУЦАЎ

# ГУЛЬНЯ Ў КАМЕНЬЧЫКІ, альбо АПАЛОГІЯ ПЛАТОНА

Эсэ



Напэўна, усё ж не кожны пагодзіцца з тым, што няма ніякай іншай навукі адначасова настолькі ж фантастычнай і займальнай, наколькі ісціннай і дакладнай, як сухая матэматыка. Наш свет у сваіх грунтоўных характарыстыках дваісты, дуалістычны і дыялектычны. Аднак дыялектыка, у старажытнагрэцкім разуменні слова, не з'яўляецца асаблівым намёкам распачатай тут гульні, бо фантастыка лічбаў сама па сабе лёгка пераходзіць у іх ісціннасць, а значыць — перакананальнасць.

Так, напрыклад, нешта падобнае здарылася з вынаходніцтвам усім добра вядомага паняцця матэматычнай кропкі, як такой, якая пазбаўленая пратсоравых параметраў, — чыстае параджэнне ідэі лічэння. Нешта нерэальнае, неіснуючае тым не менш утварае матэматычную лінію, плоскасць, прастору. На паняцці кропкі пабудавана распачатая ў XIX стагоддзі нямецкім матэматыкам Г.Кантарам тэорыя мностваў. З таемным захапленнем яна даводзіць, што, скажам, у адрэзку, даўжынёй 10 сантыметраў або і светлавых гадоў, — роўна столькі кропак, колькі і ў 2, 3, 4 і г.д. разы большым альбо меншым адрэзку лініі, што любы лік з натуральнага раду, паслядоўна ўзведзены ў першую, другую, трэцюю і г.д. ступень, цалкам адпавядае самому натуральнаму раду і што любое мноства роўнае любому са сваіх падмностваў. Інакш кажучы, 1=2=3=4=5=6= ...n. Падобныя ўраўненні, відаць, можна назваць матэматычнай варыяцыяй рэлятывісцкай тэорыі А.Эйнштэйна, але не варта забывацца, што ідэя лічэння і злічонасці ўзнікла дзякуючы рэальнай наяўнасці мноства канкрэтных рэчаў, якія займаюць тое альбо іншае канкрэтнае месца ў прасторы і лік па-сапраўднаму прызначаны толькі для іх. Задакументаваная, але гэтым, як заўсёды, не менш цьмяная, гісторыя сведчыць, што Піфагор, бацька матэматыкі, любіў дэманстраваць свае палажэнні ды тэарэмы на каменьчыках — а гэта ўжо нешта больш адчувальнае навобмацак...

Што ж, раскінем цяпер піфагоравы каменьчыкі (іх сімвалізуюць кропкі) у зваротнай паслядоўнасці натуральнага раду ад бясконцасці (пяці) да адзінкі (мал.1):




Што павінна лагічна наступстваваць аднаму каменьчыку і рэальна, наяўна знаходзіцца на лініі № 6? Як можна працягнуць наглядную паслядоўнасць?

Звычайны адказ на першае пытанне — на лініі № 6 не знаходзіцца нічога, і за адзінкай павінен лагічна наступстваваць нуль. Але прырода, як вядома, не церпіць пустотаў і, як казалі старажытныя, з нічога нішто не ўзнікае і нішто ў нішто не пераходзіць. Пасля таго, як застаецца адзін-адзіны каменьчык, наступным будзе ісці ўяўленне пра каменьчык, паняцце каменьчыка, агульная ідэя каменьчыка, архетып, што сімвалізуецца лічбай 0.

Тая ж гісторыя гаворыць, што на познім этапе свайго вучэння Платон сышоўся з піфагарэйцамі і пачаў атаясамліваць Ідэі з Лічбамі.

Спрабуючы адказаць на другое пытанне, мы знаходзім іншы варыянт працягу, які, аднак, не адмаўляе 0 як сімвал ўяўлення, а толькі адсоўвае яго: на лініях № 6, 7, 8 і г.д. павінна знаходзіцца адпаведна 1/2, 1/3, 1/4 частка каменьчыка і г.д. "да бясконцасці". Адзінка, каменьчык на лініі № 5, робіцца кропкай адлюстравання новай незлічонасці. Але нам вядома, што гэтая "бясконцасць" імкнецца да нуля і, значыць, мы можам зрабіць меркаванне, што — "дзеля здзяйснення цуда сіметрыі" — недзе за бясконцасцю натуральнага раду непазбежна павінен быць таксама своеасаблівы нуль. Інакш кажучы, крытычная маса колькасці (незлічонасці) n перарастае ў нуль.

Гэта гучыць як закон. І калі гэты закон ісцінны, дык такія піфагоравы каменьчыкі — частка і магчымая мадэль сусвету — прымушаюць задумацца над формай светабудовы. Большасць навукоўцаў схіляецца да думкі, што наш свет так ці інакш замкнёны ў сабе, адпаведна таму, як замыкаецца плоскасць — паверхня шара альбо планеты. Паводле антычнага светаўспрыняцця, Космас нагадвае сістэму сфераў ("нябёсаў"), якія абарачаюцца ўнутры адна адной. Такім чынам, можна выказаць здагадку, што нуль, да якога імкнуцца дробавыя лікі, — гэта той самы нуль, у які пераходзіць небясконцая незлічонасць лікаў натуральных, і калі, напрыклад, дапусціць, што n=10 — матэматычная схема сусвету будзе выглядаць наступным чынам (мал.2):




Сімвалізм такой мадэлі даволі шматзначны. Адзінка ў гэтай схеме яўна прэтэндуе на сімвал сутнасці нашага свету, першасэнсу. У акультных навуках, дарэчы, у так званым "Ключы Тэрнера", Адзінка расшыфроўваеццуа як "Істота". Лацінскае слова "ens" азначае "істота, існасць, сутнасць". Праблематычна, як наконт вечна цьмянай гісторыі, але наконт эвалюцыі існуе ўяўленне як пра рух ад простага да складанага — ад Адзінкі ў Бясконцасць. Гэта значыць, што любая эвалюцыя вядзе да загібелі, якаснага пераўтварэння.

Не менш сімвалічна супрацьстаянне адзінкі і нуля. Яго дуалізм выдатна ілюструе, абагульняе і ў нечым праясняе ледзьве не ўсе бінарныя апазіцыі, якімі характарызуецца наш свет: нуль — адзінка, уяўнае — наяўнае (сапраўднае), адсутнасць — прысутнасць, ідэальнае — рэальнае, якасць — колькасць, энергія — рэчыва, небыццё — быццё, дух — матэрыя, бог — прырода і да т.п.

Дыялектычныя адносіны нуля і адзінкі павінны спраўджвацца і ў тым моманце, што процілегласці звычайна валодаюць падобнымі якасцямі і скрані, як вядома, сыходзяцца. Таму, па ўзору матэматычнага правіла, кшталту

360 x 1 = 360
360 : 360 = 1
360 : 1 = 360,

нейкім чынам павінна здзяйсняцца і мець сэнс правіла

360 x 0 = 0
0 : 360 = 0
0 : 0 = 360,
або
a x 0 = 0
0 : a = 0
0 : 0 = a,

дзе a — любы лік з натуральнай бясконцасці. Новае правіла можна выразіць формулай 0 : 0 = 0va. Адпаведна яму павінна таксама здзяйсняцца правіла 1 :1 = 1vb, дзе b — любы лік з дробавай бясконцасці. І гэта сапраўды так, бо калі каменьчык утварае n — колькасць частак, дык 1 : n = 1/n, а

Браніслаў ЦРНЧАВІЧ

# "ТЫРАНАЎ НАРАДЖАЮЦЬ РАБЫ..."

## ПАМЫЛКА

Доўга чакаў я, што апішуць той час, калі мы памыляліся шчыра, хоць і рэдка, і ненаўмысна. Спадзяваўся, што зробіць гэта хтосьці за мяне больш здольны аддаць даніну тым дням і начам, калі дакладна было вядома, што ёсць грэх і хто ёсць грэшнік, калі хібы выпраўляліся, а тых, хто хібіў, да долу гнулі, пакуль яны не панюхаюцца роднай глебы і не зразумеюць, якая іхняя роля і якое за імі злачынства. Чакаў я, чакаў, ды ніхто не азваўся, ніхто не засведчыў: было ўсё так і так, і няйначай. Тыя, каму давялося мець дачыненне да эпахальнай праўды, пакрыху выміраюць, а розныя неправерaныя пісакі спрабуюць усё зацямніць, перакруціць па-свойму. Цяпер вось, калі мінуў гэткі час, я знаходжу ў друку тлумачэнні, што агранам Момчыла Іліч караўся памылкова. Ды ніякай памылкі не было. А быў Момчыла Іліч — вораг! Гэта ж ён у буфеце, пры вялікай колькасці наведнікаў, даводзіў, што савецкія каровы драбнейшыя за швейцарскіх і, адпаведна, малака даюць меней. Каб вы толькі бачылі яго тады — вораг ворагам. Паліто ў яго з футравым каўняром, на адной руцэ жуковіна, на другой масіўны пярсцёнак з устаўленым зялёным каменьчыкам, што промні пускае, шалік з ангорскай воўны, чаравікі з натуральнага хрому, на ўмацаванай падэшве. Хто, акрамя ворагаў, так убіраўся? Чаму ж гэта, пытаўся я ў яго, савецкія каровы драбнейшыя за швейцарскіх? Ён сцвярджаў, што гэта залежыць ад пароды і ад гадоўлі, а захапленне абвяшчаць савецкіх кароў буйнейшымі бессэнсоўнае. Ён трымцеў ад страху, аднак упарта вёў сваё. Я, зразумела, выпытаў усё, як належыць: і чым займаецца, і якога паходжання, і з кім бацькі супрацоўнічалі. Цалкам пацвердзілася тое, што я прадбачыў: ён самы звычайны буржуй. На пытанне, дзе даводзілася бачыць савецкіх кароў, адказ быў: там, у Расіі. А што ж ён у Расіі рабіў? Аказваецца, прадстаўляў нейкую швейцарскую гандлёвую фірму. Там і ўбачыў кароў — якім трэба было даваць малако, а не браць ад іх. Выходзіла, такім чынам, што Момчыла Іліч ворагам быў большым, як здавалася напачатку. Тады я, што называецца, скінуў пальчаткі, бо няма чаго далікатнічаць з ворагам. Момчыла прызнаўся, што блукаў з капіталізму ў сацыялізм, як хацеў. А значыць, швэндаючыся, з матухны-Расіі вывозіў усялякую інфармацыю, якая магла служыць невядома каму! "Досыць табе ўжо адных кароў прыменшваць, а другіх узвялічваць!" — заявіў я тады Момчылу. А ён, буржуй, уцёрся шоўкавай насоўкай і ў адказ: маўляў, ніхто, нават я, не можа зрабіць савецкіх кароў большымі. "У швейцарцаў ёсць Мічурын?" — задаў я Момчылу хітрае пытанне. "Няма, —адказаў ён, — бо швейцарцам ён непатрэбны". "Памыляешся, злыдзень, — тлумачыў я. — Мічурын патрэбен усяму свету! Не знайсці такой мясціны на кулі зямной, дзе без патрэбы Мічурын!" Доўга вялі мы тэарэтычную дыскусію. Момчыла стаяў на сваім, але ж мне стойкасці не бракавала. Затрымаў яго ў следчым ізалятары. Працаваць з ім давялося дні і ночы. Але швейцарскія каровы ў ягонай свядомасці паступова драбнелі, а нашы сталі даваць усё больш і больш малака. З ізалятара я выпусціў Момчылу ўжо нашым чалавекам, свядомым ва ўсіх адносінах, без ніякай падсвядомасці, пра што любяць так чаўпці навукоўцы. На будаўніцтве чыгункі ён атрымаў ажно тры значкі ўдарніка. І кожны з іх мы някепска замачылі. Потым перад Момчылам адкрылася неблагая перспектыва, склалася кар'ера ў сельскай гаспадарцы, як агранома. Ён тым часам і апранаўся, і думаў чыста па-пралетарску. Ні следу ад таго буржуазнага недаверства, з якім мы сутыкнуліся ў 1945-м. Ды самая характэрная рыса ягоная — мне гэта лепш, чым каму вядома, — упартасць. Я, калі трэба было, перагледжваў свае пазіцыі, ледзь паспяваў. А вось ён заўпарціўся, як давялося з вядомых і велічных гістарычных меркаванняў, у 1948-м нашай краіне пайсці на канфлікт з СССР. Тады ён прылюдна заявіў, што Мічурын патрэбны ў кожнай мясціне зямной кулі і што не знойдзецца такога штукара, які б настроіў яго супраць першай краіны сацыялізму. За што і апынуўся ў мясцінах не вельмі аддаленых. З розных крыніц да мяне прыходзілі звесткі, што выпраўляецца Момчыла кепска, можна сказаць, ніяк. І дахаты ён вярнуўся такі, невыпраўлены. Я жывы чалавек, прытым уразлівы, і таму не перастаю думаць, што Момчыла Іліч — мая памылка. Хіба ж не я ў свядомасці ягонай зменшыў швейцарскіх, а павялічыў савецкіх кароў, з-за чаго ён пацярпеў двойчы? А хіба не я ўвёў у свядомасць ягоную Мічурына? Таму пасля вяртання сустрэў я Момчылу як блізкага хворага чалавека. Хоць усе тады пазбягалі з ім кантактаў, я бачыўся, вёў размовы. Шукаў — і знайшоў — яму працу. Аднак у душы ягонай трымалася нейкая шэрая пляма ці, лепш сказаць, чорная рыса. Гэта была перашкода, якую я нават самымі палымянымі прамовамі не мог адолець: ён усё дудукаў пра Мічурына ды пра Мічурына! Я пераконваў, што гэта даўно трэба выкасаваць з падсвядомасці. А Момчыла зацята сцвярджаў, што ніякай падсвядомасці не існуе. Ёсць адна свядомасць, чыстая. Увогуле не схільны распаўсюджвацца пра сваё жыццё і зведаныя выпрабаванні, Момчыла з часам адкрыўся-такі нейкім пісакам. Тыя пачалі запіхваць яго ў свае творы і выштукарылі, каб на іх трасца, гэткага трагічнага героя. У іхніх крэмзаннях даводзілася, быццам бы я так выправіў Момчылу, што ён ужо ніколі і нідзе не можа знайсці сваю душу. Праўда ж зусім не тое, што падае контрлітаратура. У мяне з Момчылам ніколі не парываліся адносіны, якія перараслі ў балючае сяброўства. Некалькі месяцаў таму — кожны, хто жадае, можа пераканацца па нашых скарыстаных авіябілетах — я і Момчыла наведалі Швейцарыю. Мне захацелася вярнуць нашу спрэчку на зыходны ўзровень, а дзеля гэтага даць магчымасць, каб Момчыла яшчэ раз кінуў погляд на тых самых швейцарскіх кароў, якіх я, у колішняй захопленасці, зменшыў. Трапілі мы ў адну гожую вёсачку, на ўсход ад Цюрыха, і ўбачылі там пародзістых кароў, што ажно выстаўляліся, як быццам, свядома з кляйнотамі сваімі. Момчыла на іх глядзеў задуменна, пагладжваючы заслужаныя тры значкі ўдарніка, якія ён перашпільвае заўжды з апраткі на апратку, а потым зазначыў, нібыта пераконваючы мяне: "Тры такіх трэба на адну савецкую". Мы з Момчылам цяпер ужо старыя. Нас больш не хвалюе ўсё, што адбываецца навокал. Часам хвалюе толькі тое, што між намі, — даўняя спрэчка, гэтак прыкра завершаная. Праўда, я не адмаўляюся яшчэ змагацца за Момчылаву падсвядомасць; так, так, за яе, таму што апошнім часам даведаўся: чыстай свядомасці, без падсвядомасці, няма. Наступным летам я павязу Момчылу яшчэ раз у Швейцарыю. І не памру, пакуль не павялічу тых кароў, якіх я калісьці для Момчыла зменшыў. Выпраўлю сваю памылку, сплачу даўгі, пакуль жывы.

## КОБА

Хіба ж сам Коба не з чалавекалюбства пачынаў, хіба не гэта прынесла яму першую жменьку славы? Коба (вядомы больш як І.В.Сталін) станавіўся ўсё славуцейшы і магутнейшы, а людзі, якіх ён хацеў зрабіць лепшымі, не надта мяняліся, калі мяняліся наогул. Коба задумаўся, у чым справа. Можа, яны бянтэжацца, нервуюцца, палохаюцца невядомага? А можа, што яшчэ горш, баяцца вядомага? Ды так і гэтак, трапляючы ў цяжкасці — а іх ніколі не бракуе, — людзі погляды свае звярталі да Кобы і нікога іншага, яго пыталі, што рабіць.

Коба раіў, суцяшаў, ушчуваў, заклінаў і праклінаў. Сваім указальным пальцам азначаў адзіны шлях да адзінай мэты. А людзі ўсё роўна сваё. Туляюцца па нейкіх блытаных сцежках, чапляюцца за ўсялякія дробныя мэткі. І знаходзяць сабе раз за разам новыя цяжкасці, непамыслоты. А потым, разгубленыя, толькі і чакаюць, што Коба параіць, якое выйсце прапануе.

Вера ў Кобу мацнела, а сам ён адчуваў, што на асаблівую дапамогу не здатны.

Прыкра: і Бог ты, і не Бог!

Адной ночы (а такое магло стацца толькі ўначы, пры бяссонні) зазірнуў Коба ў сябе, як у шклянку, аж да самага донца. І зніякавеў: няўжо гэта я, ці ж напраўду такі? Завагаўся тады, заставацца яму ці знікнуць. Найлепш было знікнуць. Сумленна выйшла б, па-людску. Немагчыма заставацца, усвядоміўшы ўсё як ёсць. Ды хто б яму, праваўдыру, дазволіў сысці, як звычайнаму чалавеку, і здавольвацца картамі, більярдамі, курвамі ды пітвом?

Коба зразумеў, што ён — раб сваіх рабоў і слуга сваіх слугаў. А гэтага ён не мог дараваць ні ім, ні сабе.

Не прыдумаўшы нічога лепшага, Коба зняволіў гурму самых верных таварышаў і

пакольні для кожнага каменьчыка існуе свая колькасць частак (атамаў), якую можна акрэсліць лічбай a, дык 1 : a = b, гэта значыць, што ў дадзеным выпадку n = a.

Аналіз узаемадачыненняў нуля і адзінкі можна доўжыць, але ўжо цяпер зразумела, што вышэйпрыведзеную матэматычную мадэль свету (мал. 2) можна таксама акрэсліць у форме "васьмёркі" (мал.3):




Вядома, што ў рэчаіснасці гэтыя бясконцасці зусім не абавязаныя быць аднолькавымі, адна з іх можа быць большай альбо меншай, астранамічна вялікай альбо мікраскапічна малой, дробавую бясконцасць можа складаць не паслядоўнасць 1/2 — 1/3 — 1/4 — 1/ 5 — ... 1/n, a, напрыклад,

$$\frac{n-1}{n} - \frac{n-2}{n} - \dots \frac{1}{n}$$

і іншыя.

На "васьмістую" мадэль свету (мал. 3) фенаменальна накладаецца парадокс Зянона Элейскага "Ахіл і чарапаха", паводле якога Ахіл, што бегае ў 10 разоў хутчэй і дае чарапасе адлегласць у 10 метраў, ніколі не дагоніць яе, таму што "пакуль Ахіл прабяжыць 10 метраў, чарапаха — 1, пакуль Ахіл прабяжыць і гэты метр, чарапаха — 1/10 метра, пакуль Ахіл прабяжыць 1/10 метра, чарапаха — 1/100 метра..." і г.д. На схеме суадносіны "Ахіл-чарапаха" будуць адпавядаць парам лічбаў 0 — 10, 10 — 0, 1 — 1/10, 1/10 — 1/100 = 10/10 — 10/100 = 1 — 1/10, 1 — 1,10 ... і г.д.

На дзіва, гэты парадокс, акрамя толькі што прыведзенага ўзору, падцвярджаецца тут яшчэ адным спосабам — тады, калі за прынцып спаборніцтва двух яўна не роўных адзін аднаму па сваіх здольнасцях партнёраў выступае не бясконцая ўмова "пакуль... пакуль... пакуль...", а цалкам канкрэтная, акрэсленая, дастатковая і тым натуральная — "пакуль Ахіл прабягае 10 метраў —чарапаха 1 метр": 0 — 10, 10 — 0, 10 — 0 ... і г.д. Проста ў дадзеным выпадку кожны з бегуноў, прабегшы першы раз па метру "чужой" бясконцасці, г.зн. незлічонасці, усе наступныя разы бегае толькі па "сваёй": Ахіл — па натуральнай, чарапаха — па дробавай. Акрамя таго, раптам высвятляецца, што замкнёная або "васьмістая" форма свету і вечныя суадносіны "1 — 1/10", у якія ўступаюць у першым прыкладзе Ахіл ды чарапаха, наглядна даказваюць абсурднае цверджанне яшчэ аднаго элеата — філосафа Парменіда, які казаў, што ніякага руху не існуе. Ёсць хіба што толькі вібрацыі.

Але вернемся зноў да піфагоравых каменьчыкаў, да малюнка 1, і яшчэ раз, апошні, раскінем іх у зваротнай паслядоўнасці натуральнага раду ад бясконцасці (пяці) да адзінкі ў крыху іншай канфігурацыі (мал. 4):




Нішто ў нішто не пераходзіць — што павінна рэальна знаходзіцца на скрыжаваннях a2, a3, b3, a4, b4, c4, a5, b5, c5, d5 і на лініі № 6?..

Ідэі, ідэі самых розных рэчаў перапаўняюць свет, яны вакол нас і ўнутры нас, нібы электрамагнітныя хвалі, нібы флюіды, і ў сваёй разнастайнасці ды колькасці нематэрыяльнай субстанцыі мусяць утвараць свой свет.

Многія гульні з часам перарастаюць у поўныя сур'ёзнага духу тэорыі, аднак трывіяльнае вынаходніцтва Ідэяў не з'яўляецца найапошнім вынікам тэорыі небясконцай незлічонасці. Мэта папярэдніх тлумачэнняў — абгрунтаваць звычайную сітуацыю, якая не раз магла здарыцца з Піфагорам, вядомым славай мага, і з Платонам, названым Боскім. Хутчэй за ўсё яна магла б адбыцца з імі абодвума, калі б яны былі сучаснікамі. Гісторыя, вядома, не даносіць да нас таго сапраўднага, што менавіта пераканала Платона і пра што мы можам толькі здагадвацца, але падобная сітуацыя патэнцыяльна можа адбыцца з кожным, і па нашым часе ў сваёй n-варыянтнасці можа выглядаць наступным чынам.

Ваш добры знаёмы, чалавек, які не сумняваецца ў Вашай сумленнасці, па дарозе з банка на, дапусцім, абсалютна не прадказальныя для яго дзелавыя перамовы, заходзіць да Вас і пакідае на пару гадзін свой дыпламат, папярэдне сказаўшы Вам, што ў ім — роўна мільён даляраў. Вы, безумоўна, верыце свайму сябру, ды і было б дзіўным сумнявацца ў пільнасці касіраў банка. Але самі для сябе Вы ўяўляеце, што грошай тут куды больш. Вы адлічваеце сабе два мільёны наяўнымі — і вяртаеце добраму знаёмаму ягоны мільён...

Галоўнае — умець уявіць...

---

# Віктар СЛІНКО

# "МАЁ ЛЕТА МІНУЛА"



### ХОВАНКІ

*Завіхаюцца дарослыя ля жывёлы:*
*накарміць трэба і кароў, і парсюкоў.*
*А я нічога не раблю,*
*я гуляю з сябрамі ў*
*хованкі.*
*Схаваўся я за дрывотняй.*
*А мой сябра Мікола зайшоў*
*за дрывотню і паглядзеў на мяне...*
*і пайшоў. Не ўбачыў.*
*Пайшлі сябры дамоў, дарослыя зачынілі*
*жывёлу і таксама пайшлі.*
*А я застаўся за дрывотняй —*
*непаклікаігы дарослымі, сябрамі забыты.*
*Хаваюся ад сябе, каб убачыць*
*нябачнае і пачуць нячутнае — тое,*
*што хаваецца ў маёй душы.*
*А я, тагачасны хлопчык, так і*
*застаўся там, за дрывотняй.*

* * *

*Хлопцы і дзяўчаты з Гарадзішчаў*
*сабраліся на вячоркі.*
*Спявалі, танцавалі, і каля апоўначы,*
*калі стаміліся многія*
*ад спеваў і скокаў, нехта прапанаваў*
*пагуляць у "шыбеніцу". Адзін за адным*
*хлопцы, а за імі і дзяўчаты паказвалі,*
*як яны вешаюцца на вяроўцы,*
*а Іра кажа: "Давайце я..."*
*Усе засмяяліся, бо Іра — вясёлая дзяўчынка,*
*заўсёды, бы сонейка, усміхаецца.*
*І як толькі паклала яна галаву*
*ў пятлю, адразу пагасла лучына,*
*падзьмуў вецер праз шчыліны ў вокнах,*
*стала страшна ўсім. Выбеглі дзяўчаты*
*і хлопцы з хаты, а Іра засталася —*
*забыліся на яе...*
*Сонейка апоўначы не свеціць.*



### МОГІЛКІ

*У старой вёсцы, дзе жывуць старыя людзі,*
*ёсць могілкі, на якіх пахавана Даўніна.*
*Сын майго прадзеда, Лёнька, неяк гуляў па*
*возеры, напіўся вады з палонкі і памёр ад*
*запалення лёгкіх. Ён пахаваны тут. А мой дзед —*
*яго звалі Віця — памёр ад гарэлкі... Яшчэ*
*даволі маладым памёр. Мяне таксама завуць Віця —*
*і дзесьці я чытаў, што шмат хто з тых людзей,*
*якія носяць гэтае імя, памруць ад гарэлкі...*
*Ну і добра. Добра ведаць, ад чаго ты загінеш.*
*А мой прадзед... Ён жыве і дагэтуль.*
*І адзінае, што ён ведае зараз, пражыўшы*
*амаль дзевяноста год, адзінае, у чым ён упэўнены, —*
*шчаслівы той чалавек, які не нарадзіўся на свет.*
*— Хіба гэта так? — пытаў я ў прадзеда.*
*— Так, унучак. Жыццё маё было доўгае, і*
*я паспеў гэта зразумець...*
*Мы сядзім каля ганку. І я хачу, каб мой*
*прадзед жыў доўга, але... У яго вачах — Даўніна.*
*І я бачу тыя суніцы, якія растуць Там, але*
*нельга іх рваць. Я бачу, што мой прадзед*
*ведае нешта, але ніколі ён не скажа мне тыя*
*словы, бо мне трэба яшчэ доўга жыць. І я*
*павінен жыць, і я буду жыць... пакуль не*
*сапраўдзіцца маё імя — Віктар.*

* * *

*Да змяркання яшчэ гадзіна,*
*а ўжо зараз усё вакол мяне*
*поўніцца ім:*
*людзі спяшаюцца ў кватэры,*
*птушкі — у гнёзды да птушанят,*
*а я іду да змяркання.*
*Усе жывуць у дні, а ў змярканні — хто?*
*Толькі самотныя дрэвы...*
*Таму я іду да змяркання —*
*піць ваду з азёр маёй Беларусі,*
*дыхаць водарам пожні,*
*верыць у лепшае.*
*Змярканне размаўляе са мной,*
*дорыць мне свае таямніцы: як*
*быць з людзьмі і быць чалавекам,*
*як хадзіць басанож па пожні*
*і не параніцца.*
*Ужо не дзень, яшчэ не ноч:*
*змярканне. Я сустрэну цябе.*

### ВОСЕНЬ

*Вось ужо шкрабе аб спод*
*лыжка, а полымя, гарэўшае так*
*ярка, стала гасіцца само,*
*а руплівыя жнеі зносяць у*
*снапы мёртвыя каласы: жнеі*
*рыхтуюцца да зімы, жнеі рыхтуюцца,*
*каб сытна было ўсім.*
*На таку б'юць цапы.*
*Восень.*
*Выбівае цэп з мяне лета,*
*успаміны аб ім.*
*"Ты чый?" — праязджаючы на веласіпедзе,*
*спытаў мужчына.*
*Я паціснуў плячыма. Хіба я ведаю, чый я?*
*Прыехаў у вёску, а тут — восень.*
*Прыйдзе новае лета, і прыедзе ў вёску*
*новы чалавек з маім імем, з маім*
*розумам і пачуццямі.*
*Але гэта буду ўжо не я.*
*Маё лета мінула.*

---

сарамліва аддаў загад пакараць іх смерцю. Гэта быў проста выклік. Гэта была прага барацьбы і выпрабавання. Коба паказаў, адкрыта і сумленна, на што ён здольны. А ім, бач, спадабалася! Яны прынялі гэта як адзіны шлях да адзінай мэты!

Нерашучы толькі ў адносінах да сябе самога, Коба зацята пазбаўляў волі і сяброў, і ворагаў. Людзі — калі з любоўю і нянавісцю, калі з пашанаю і жахам — ішлі за ім да канца. Праз усе свае смерці да ягонай. І нават крыху далей.

Цяпер усе дудукаюць: "Коба — тыран". А забываюцца, што на той момант, калі ён адчуў ліха ў сабе, яму б ніхто не дазволіў скончыць так, як гэта дазваляецца расчараванаму паэту. А хіба маглі дапусціць, каб ён, правадыр і настаўнік, падобна да простага чыноўніка прысвяціў сябе пасьянсам? Урэшце, надумай ён знікнуць, не далі б. "Ты правадыр, — сказалі б яму. — Вось і вядзі!"

Ад Кобы ўсе чакалі больш, як ад сябе саміх, і ён апраўдваў гэтыя спадзяванні!

Праклятае жыццё! Як толькі нехта дапнецца да славы і да ўлады, усе кідаюцца да яго: "Ты во які! Рабі штосьці, вядзі кудысьці!" А пасля ўсяго такога хітразадыя, не здольныя вытлумачыць прыроду рабоў (яны б'юцца над пытаннямі, як гэта рабы вытрывалі, як можна існаваць без волі, як падобнае становіцца масавым у нашу дэмакратычную эпоху), у тыранах шукаюць прычыны рабства.

А што калі тыранаў нараджаюць рабы, а не маткі?

* * *

І тут нават, у горным азіяцкім мястэчку (яно стаіць на горным схіле, які прамываецца лагоднымі дажджамі) я, п' ючы піва з тамтэйшым вадыром, не мог не думаць пра Кобу.

Піва называлася "Сан Мігуэль". А мы ніяк не называліся. Мая сербская мова таму вадыру не значыла нічога, таму значыла ўсё. Я казаў: "Трымайся, браце!", быццам бы ведаў, як яму цяжка. І тлумачыў, што ўсё міне, бо ў жыцці хапае рознага, а найбольш муці.

Піва "Сан Мігуэль" мы выжлукталі шмат. На мове, якая мне нічога не значыла, вадыр доўга, шчыра і адкрыта гаварыў. Прызнаўся, што ў ягоным жытле ў гарах працякае дах. Моцна? Ды моцна. Я суцяшаў яго, маўляў, усе дахі працякаюць калі-нікалі. Вечных дахаў няма. Як толькі будзеш думаць, што дах вечны, ён пачне працякаць. А тады больш-больш і скрозь дзіркамі пойдзе.

Забаўляючыся ключамі сваімі, я перахапіў нейкі прагны погляд вадыра. (Яны там, у гарах, ключоў яшчэ не ведалі. Дзверы ў іх заўжды расчыненыя, але і там хутка пачнуць замыкацца!)

Давялося падарыць вадыру бірульку на ключы разам з ключамі, а ён аддараваўся тузінам зубачыстак з косці слановай.

Абмен гэты вадыру вельмі спадабаўся. Ён павярнуўся на ўсход, пачаў адбіваць паклоны і гартанна выгукваць: "Коба, Коба, Коба!"

Божа літасцівы, і сюды, на край свету, дайшло гэтае імя! Укленчыўшы, вадыр прасіў, каб я стаў нагою яму на шыю. Я выканаў просьбу і ашчаслівіў чалавека.

Потым мы паціснулі адзін аднаму руку і развіталіся па-людску.

Праз нейкі час мне давялося трапіць у горы і ў паселішча вадыра. І высветлілася, што дзякуючы піву "Сан Мігуэль" ды бірульцы з ключамі я стаў Богам. Вадыр сваё племя пераканаў, што сустрэўся з тоўстым белым богам, які частаваў яго півам "Сан Мігуэль" і падараваў ключы ад любых дзвярэй.

Паверыўшы ў новага бога, племя зможа расчыняць усе дзверы.

Ды шаман племені не даў веры ні ключам, ні астатняму. (Традыцыяналіст?) Ён, звяртаючыся да супляменнікаў, заклікаў, каб маліліся толькі вядомым багам і каб пазбягалі белага, тоўстага, незнаёмага бога.

Вадыр узяў тады меч і распалавініў гэтага дысідэнта, фракцыянера і трацкіста. Племя ён таксама распалавініў.

Там і дагэтуль барацьба не спынілася.

Паводле вадыровых успамінаў (паколькі сам гэтага вадыр не зрабіў), выразалі з дрэва маю постаць. І я называюся Белы Тоўсты Бог Які Нам Даў Ключы Ад Усяго І Які П'е Піва Сан Мігуэль.

Прыгожае, хоць і крыху даўгаватае, імя.

Апазіцыянеры начамі ў статую (якая досыць дакладна мяне ўвасабляе) выпускаюць з лукаў атручаныя стрэлы. Злавіўшы, іх караюць смерцю (таксама стрэламі, традыцыйна).

Я не завітваў больш да вадыра. А то б яшчэ падумалі, што сапраўды Бог наведвае племя, і запатрабавалі б: парай, як быць. Тады ўжо не заставалася б нічога іншага, як вядзі, сячы, бі!

Я знік, таму што ведаю гісторыю Кобы. І з мяне добрыя людзі маглі зрабіць свайго тырана. Ды калі гэта са мною, які толькі піва папіў з племянным вадыром, магло здарыцца, што казаць пра Кобу! Яму ўцячы ад сваіх рабоў шанцаў куды меней.

У мяне была магчымасць пераканацца, што тыранаў нараджаюць рабы, а не маткі.

**Пераклаў з сербскахарвацкай**
**Іван ЧАРОТА**




Алесь РАЗАНАЎ

# ТВАРАСЛОВЫ*



*Бытнаваць* — знаходзячыся ў пэўным часа-прасторавым кантынууме, быць тоесным быццю, і такім чынам дазваляць яму рабіцца постасным, асабовым; **пребывать**.

*Бытнаванне* — **пребывание**.

*Бытны* — **пребывающий**.

*Бытнавацьме* — **пребудет**.

Тады, якое месца абярэ Госпад, Бог ваш, каб бытнаваць імені Яго там, туды прыносьце ўсё, што я наказваю вам (Другазак., 12:11).

Хто не бытнавацьме ўва мне, адрынецца прэч, як гліна; і ссохне (Іаан, 15:6).

Бог ёсць любоў, і той, хто бытнуе ў любові, бытнуе ў Бозе, і Бог у ім (1 Іаан, 4:16).

*Вехкі* — той, чый век вялікі; стары; ветхий.

*Вякчэць* — **ветшать**.

*Звякчэлы* — **ветшающий, обветшавший**.

*Звякчэласць* — **ветхость**.

*Звякчэнне* — **ветшание**.

Калі я маўчаў, звякчэлі косці мае ад усядзённага стогну майго (Пс., 31:3).

Яны загінуць, а Ты бытнавацьмеш; і ўсе яны, як рыззё, звякчэюць, і, як адзенне, Ты пераменіш іх, — і зменяцца (Пс., 101:27).

Уздыміце вочы вашы да нябёсаў, і паглядзіце на зямлю ўніз: бо нябёсы знікнуць, як дым, і зямля звякчэе, як адзенне (Іс., 51:6).

Ведаючы тое, што вехкі наш чалавек распнуты з Ім, каб знічана было цела грахоўнае (Рым., 6:6).

Але цяпер, памёршы для закону, якім былі звязаны, мы вызваліліся ад яго, каб нам служыць Богу ў абнаўленні духа, а не па вехкай літары (Рым., 7:6).

Кажучы "новы", паказаў звякчэласць першага; а звякчэлае і састарэлае блізка да знішчэння (Яўр., 8:13).

*Вомшанне* — убірае ў сябе рэчаіснасць, судакранаючыся з ёю; змяшчае яе ў сабе, распазнаючы навобмацак, што яна азначае; яно ў руху, яно на шляху, і рэчаіснасць для яго заўсёды і перашкода, і павадыр; **осязание**.

*Вомшаць* — **осязать**.

*Вомшавы, вомшаны* — **осязаемый**.

*Вомсны* — **осязательный**.

Вомшаем, як сляпыя; і, як без вачэй, ходзім вобмацкам (Іс., 59:10).

Вы падступіліся не да гары, вомшанай і ахопленай полымем (Яўр., 12:8).

Пра тое, што было адпачатку, што мы чулі, што бачылі сваімі вачамі, што разглядалі, і што вомшалі рукі нашы (1 Іаан, 1:1).

*Грайшч* — стан надзвычайнай радасці, захаплення, шчасця, які, як вясёлка, грае ў чалавеку і афарбоўвае рэчаіснасць у колеры раю; **восторг**.

*Грайшчыцца* — **восторгаться**.

*Грайшчыць* — **восторгать**.

*Узграйшчыцца* — **восторжествовать**.

*Грайшчасны, грайсны* — **восторженный**.

**Апошнім часам міф аб непрыдатнасці беларускай мовы для азначэння метафізічных сэнсаў моцна занядужыў, а мо ўжо і зусім сканаў. Але лакальных праблемаў, якімі гэты міф у пэўнай меры мацаваўся, застаецца даволі, і самі па сабе яны не вырашацца. Вось чаму "ЗНО", у рубрыцы "Філасофскі слоўнік", распачынае гаворку, якую ўмоўна пазначым так: абстракцыі мыслення і рэальнасці мовы.**

**Спадзяемся, што тэксты Алеся Разанава і Юрася Пацюпы, кожны з якіх прапаноўвае сваю стратэгію падыходу да праблемы метафізічных і іншых адцягненых слоў і тэрмінаў, падахвоцяць усіх (каму ёсць што сказаць з гэтай нагоды) звярнуцца ў "ЗНО" са сваімі меркаваннямі, імпрэсіямі, метадалагічнымі праектамі.**

**В.А.**

Юрась ПАЦЮПА

# ЗАЦЕМКІ НА ПАЛЁХ ФІЛАСОФСКАГА СЛОЎНІКА



## I

У 1993 г. у першым нумары "ЗНО" газеты "Культура" І.Бабкоў упершыню ўжыў новае слова **повед** замест даўно вядомага і звыклага **паняцьце** і тым самым узняў насьпелую праблему аўтэнтычнае філасофскае тэрміналогіі. Зразумела, аўтару **паняцьце** здалося вельмі ж падобным да расейскага **понятие** і ён вырашыў замяніць гэтае слова на больш беларускае. Пэўная рацыя тут ёсьць, **понятию** ў расейцаў адпавядае цэлае гняздо роднасных найменьняў: **понять, понимать, понятливый, понятийный**. У нас жа поўны разнабой: **зразумець, разумець, цяміць, зразумелы, кемлівы, паняційны** (лепш **паняцьцевы**) і г.д. І хаця разнабой ёсць ня толькі ў беларусаў, а ТСБМ усё ж дазваляе ўжываць дзеяслоў **паняць**, аднак, на практыцы, ім цяпер карыстаюцца толькі ў адным выпадку: **паняць моду**, г.зн. — узяць нейкую звычку. Праблема ўзьнята не на пустым месцы і будзе трываць, пакуль не атрымае належнае разьвязкі.

Жыцьцё мовы — вялікая таямніца. У нашаніўскі перыяд беларусы спакойна карысталіся пазычанымі з расейскай мовы словамі **гасударства, правіцельства** і да т.п., пасьля адрадзілі свае: **дзяржава** (або **гаспадарства**, у высокім стылі) ды **ўрад**. Таму, здаецца, няма нічога дзіўнага ў прапанове І.Бабкова. Чаму моўная інтуіцыя ня хоча згадзіцца з **поведам**? Паспрабуйма разгледзець дзеяслоў **паведаць**, ад якога ўтвораны **повед**, мы ўбачым, што ён зусім ня мае на ўвазе значэньне **понять**, больш таго, **паведаць**, напэўна, часьцей ужываецца ў мове расейскай, чым беларускай.

Галоўны аргумент супраць **поведа** — яго ўнутраная форма. Наіўна думаць, быццам унутраныя формы слоў даўно паўміралі і не выяўляюць сябе. Ня трэба быць нават філолагам, каб зразумець: дзеяслоў **паняць** роднасны дзеяслову **мець**, ён хавае значэньні "ўзяць", "зрабіць сваім", "прыўлашчыць", "паімець". Фактычна ўсе славянскія мовы тарнуюць тут адну і тую ж унутраную форму. Прапаноўваю для параўнаньня Табліцу І.

З табліцы відно, што славяне карыстаюцца не толькі назовамі, роднаснымі **мець**, але і іншымі семантычнымі адпаведнікамі. Аналагічны вобраз тарнуецца і мовай нямецкай: **der Begriff** (паняцьце) ўтворана ад **begreifen** (разумець, або, літаральна, абхапляць), апошняе ад **greifen** (хапаць). Ці не з таго шэрагу і наш выраз "схапіць думку"!

Працэс разуменьня, схоплiваньня, прысваеньня думкі — гэта адзін з найгалоўнейшых складнікаў герменеўтыкі. "Я магу быць сапраўды пераканаы, што зразумеў аўтара,— пісаў Наваліс, —толькі калі я здольны напоўніцу атаясаміцца з ім у любым духоўным зруху, адно калі я ў стане, не скажаючы яго адметнасці, перакласці і пераўтварыць яго на сто розных ладоў..." Шлеермахер і Дыльтэй, нямецкія герменеўтыкі XIX ст., мелі галоўным прынцыпам навукі тлумачэньня наступнае: духоўна ўвасобіцца ў тэкст і зрабіць чужы досьвед сваім. Тут дарэчы было прыгадаць і іншае: паводле Фрэйда працэс атаясамліваньня, прыпадабненьня, пераймaньня ў старажытных людзей (таксама як і ў малых дзяцей) выступае як паглынаньне аб'екта, другімі словамі — тое ж схопліваньне. Значыць, слова ў згорнутай форме захоўвае цэлую навуку з дакладна разгалінаванымі функцыямі.

Зусім супрацьлеглае значэньне мае дзеяслоў **паведаць**. Калі ў першым выпадку працэс інфармаваньня ішоў ад аб'екта (таго, які спасьцігаюць, разумеюць) да суб'екта (таго, які разумее), то тут камунікатыўны працэс пераварочваецца, адрасат і адрасант мяняюцца месцамі — і мы не бярэм інфармацыю, а аддаем. Значыць, "разуменьне" застаецца ўжо недзе далёка ззаду, пройдзеным этапам, утварэньне і ўтрымліваньне інфармацыі таксама не адыгрываюць ужо ніякае ролі. Галоўным чыньнікам робіцца прэфікс **па**, а гэта значыць, што адбываецца працэс нарацыі. У чым жа якраз нельга западозрыць і **паняцьце** і нават самую філасофію — дык гэта ў фабульнасці. Нельга збліжаць апавяданьне з разуменьнем, раман з трактатам. Бо тады ў нас сапраўды ніколі ня будзе філасофіі.

Вядома, І.Бабкова ня цяжка зразумець, ён хацеў засяродзіцца на корані **вед**, а не на размеркавальным прэфіксе **па**. Іншымі словамі, ён імкнуўся зафіксаваць не працэс перадачы, а працэс захоўваньня інфармацыі, які зьвязаны з дзеясловам **ведаць**, але прэфікс перашкодзіў ды ўзяў на сябе галоўную семантычную нагрузку. Можна адзначыць яшчэ адну рэч: тэрмін І.Бабкова — гэта механічная мадэль з англійскага **notion** (паняцьце). Тут аўтару слова, каб стаць пасьлядоўным, варта было ісьці ад дзеяслова **знаць**, а ня **ведаць**,бо **пазнаць** супраць **паведаць** якраз і абазначае прыняць, "паняць", засвоіць. Больш таго, **notion**, усім вядома, узнік з лацінскага **notio**, акрамя англійскае мовы гэтае найменьне асабліва распаўсюджана ў мовах раманскіх (франц. **notiune**, італ. **nozione**, рум. **notiune**) і звязана з лацінскім **noto** (абазначаць). Нашае ж **знаць** таксама, у сваю чаргу, аднакарэннае са словамі **знак**, **абазначаць** і, у рэшце рэшт, паводле ЭСБМ зьвязана са старажытным значэньнем "прымаць". Безумоўна, у англійскай мове названы лацінскі корань лучыцца і з перадачай інфармацыі, аднак, якія б калькі мы ні рабілі, трэба заўсёды зыходзіць з магчымасьцяў уласнае мовы, а не чужой. Хутчэй за ўсё валентнасьці дзеясловаў **знаць** і **ведаць** не дазваляюць тарнаваць іх карані, прынамсі, мне нічога больш-менш прыстойнага ўтварыць не ўдалося.

Дарэчы было б тут прыгадаць і словы **нататкa**, **натаваць** (ад таго ж noto) ды параўнаць іх з беларускім **цяміць**, **зацемка**, каб яшчэ раз выпрабаваць раманскую ўнутраную форму. Толькі нас ізноў чакае няўдача, нічога лепшага акрамя маластраўнага "зацем" у галаву не прыходзіць. **Кеміць** і (здаецца, роднаснае яму) **кмець** (селянін, галава) яшчэ менш прадуктыўныя.

На гэтым месцы варта спыніцца ды пачаць гаворку нанова. Назоў **повед** у беларускай мове ня менш мёртвы, чым яго нашмат удалейшы папярэднік **паняцьце**. Усе аднакарэнныя з гэтым назовам словы абазначаюць рэчы іншага кшталту. Таму я вырашыў не зважаць на апошнюю акалічнасць і весці пошукі тэрміна паводле традыцыйнае славянскае мадэлі. Як паказвае Табліца І, у славянскіх мовах тут вар'ююцца пераважна толькі словаўтваральныя афіксы пры адным і тым жа корані. Ці не скарыстаць і нам яго?

Вынікамі маіх разважанняў стала слова **спайменьне**. Прэфіксальны фармант **спа**, а не **па** (прыгадайма нелітаратурнае **спаймаць**) я ўзяў дзеля таго, каб ня ўзьнікла знаёмае ўжо значэньне разьмеркавальнасці. **Спайменьне** (ад **паімець, спаймець**) абуджае неблагую гукавую асацыяцыю з **найменьнем**, дае яно і пэўныя дэрываты: **спайменны, спаімлівы**. Гэтае слова можна было прызнаць большменш удалым, але знайшліся раўназначныя беларускія тэрміны.

Найперш я зьвярнуўся да слоўніка Я.Станкевіча; ведаючы ўнутраную форму, ужо ня цяжка было адшукаць, з тым жа значэньнем, раней невядомае мне **паймо**. Значыць, Я.Станкевіч рухаўся аналагічным шляхам. Ня выключана, што ягонае **паймо** ўзьнікла на ўзор чэшскага тэрміна **pojem**. Але наўрад ці можна палічыць удалым для беларусаў прытарнаваны Я.Станкевічам малапрадуктыўны, у дадзеным значэнні, магілёўскі суфіксальны фармант **мо** (Гл.: Сцяцко П. Беларускае народнае словаўтварэньне. Мн.,1977. С.54.)

Больш цікавае і сапраўды вартае на ўвагу народнае ўтварэньне **панятак**, якое фіксуе "Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі" (Мн.,1990). Беларуская адметнасць дыялектызму выяўляецца ў яго словаўтваральнай мадэлі. Параўнайма аналагічныя выпадкі дэрыватаў з расейскімі аднакарэннымі словамі: **окончание — канчатак**, **заглавие — загаловак**, **совпадение — супадак**, **напоминание — напамінак**, **занятие — занятак**, **затишье — зацішак**, а таксама **ратунак, рабунак, мацунак, будынак, дадатак, зваротак, набытак**. Ад **панятку** ўзьнікае таксама характэрны беларускі дэрыват **паняткавы** замест **паняційны**. У параўнаньні з паняцьцем гэты народны тэрмін больш канкрэтны, абазначае, як і належыць у дадзеным выпадку, ня дзеяньне, а прадукт дзеяньня.

Чарговы раз можна пераканацца, што ня мы выбіраем мадэлі, а мова іх дыктуе, народ жа найбольш да гэтага голасу чуйны суб'ект. Наўрад ці варта выракацца дыялектнага слова **панятак**, якое ўзьнікла натуральным шляхам і ў супастаўленьні з усімі іншымі славянскімі мовамі мае сваё непаўторнае і ў той жа час старажытнае аблічча, да таго ж яно дастаткова празрыстае для разуменьня, не парывае з традыцыяй і не замінае ўспрымаць раней створаныя тэксты.

## II

На слове **панятак** праблемы беларускае філасофскае тэрміналогіі не завяршаюцца. Да прыкладу, у нас няма дакладнага разьмежаваньня супрацьпастаўленых яшчэ Кантам тэрмінаў **разум** (die Vernunft) і **рассудок** (der Verstand). Калі **розум** ды **развагу** ўсё-ткі разьмяжоўваюць у беларускай мове, то ўжо пераклад дэрывата **рассудочный** утвараецца ў нас на аснове якраз супрацьлеглага тэрміна: **разумовы**. А адсюль, магчыма, назову **развага** не хапае патэнцыі, каб прытарнавацца да філасофіі, замест **развагі** мы ахвотней ужываем **рацыя**. І хаця абодва словы неславянскага паходжання, усё ж толькі першае засвоена моваю арганічна.

Разьвязка тут мне ўяўляецца даволі простаю: узвысіць слова **развага** да філасофскага тэрміна. А як сінонім прыметніка **разумовы** — прапанаваць дэрыват **развагавы**, бо **разважны** традыцыйна ўспрымаецца за адпаведнік **разважлівы**, гэта значыць — надзелены цьвярозым розумам.

Складанейшае наступнае пытаньне, якое паўстае ў адзначаным шэрагу: калі няма ў беларускай мове слова **рассудок**, а таксама **судить** у значэньні **меркаваць** (судзіць можна злачынца), то непажадана і карыстацца словам **суджэньне**. Тэрмін **суждение** (ням. **das Urteil**, англ. **júdgement**, франц. **jugement**, італ. **giudizio**, рум. **judecatǎ**, літ. **nuómone**) амаль ва ўсіх індаеўрапейскіх мовах, у тым ліку і ў славянскіх (гл. табліцу 3), зьвязаны са значэннем **суд**. З пералічанага шэрагу толькі ў літоўскай яно адыходзіць ад характэрнае ўнутранае формы (**суд** па-літоўску — **teĩsmas**). Беларусам таксама варта адысці (хаця ў нязначнай ступені, убачым ніжэй) ад распаўсюджанае мадэлі, бо, як паказвае табліца, гэтым коранем у нас не абазначаюцца разумовыя працэсы.

Каб знайсьці патрэбны адпаведнік да **суждения**, я перабраў мноства блізкіх паводле значэньня слоў. Традыцыйна існуе **меркаваньне**, але яно толькі напалову "пакрывае" **суждение** ў значэньні **гледзішча**, **пазіцыя**, **думка**. **Суждение** блізкае сэнсава і да **высновы**. І вось тут я задумаўся: а як жа апошняе слова падаваў В.Ластоўскі? **Высновы** тады яшчэ не існавала, а **вывад** наўрад ці ён стаў бы ўжываць. Сапраўды, у В.Ластоўскага **вывад** перакладаецца як **выказ**. У сучасных беларускіх нарматыўных слоўніках **выказу** няма зусім, падавалі яго некалі Байкоў і Некрашэвіч за сінонім **выказваньня**, а таксама, спасылаючыся на Я.Лёсіка, у значэньні **сказ**, дае яго Я.Станкевіч у значэньні **выражение** як утворанае ад **выказаваць**, дарэчы, тут **выказ** ніякімі прыкладамі не ілюструецца. Значыць, наколькі гэтае слова натуральнае ў сваёй словаўтваральнай мадэлі для нашае мовы, настолькі яно пакуль неактуалізаванае, маргінальнае, усе спробы яго выкарыстаць надзіва супярэчлівыя, я думаю, што сёньня, аднак, можна з посьпехам тарнаваць **выказ** замест **суджэньня**.

Адразу мая прапанова здольная шакіраваць чытача, ужо хаця б таму, што **суджэньне**, нехта скажа, бывае і ня выказаным. Але, па-першае, нам трэба адразу адмовіцца ад расейскага сінкрэтызму, дарэчы, шкоднага для тэрміналогіі, — беларуская мова пераважна канкрэтная — і ня блытаць лагічны тэрмін з **меркаваньнем** (мнением). Таксама, як ня блытаем **каханьне** з **любоўю**. Мы і так злоўжываем калькамі з расейскае мовы. Чэхі, да прыкладу, хаця і маюць у логіцы **soud**, аднак адрозьніваюць яго ад **меркаваньня**, якое перакладаецца **nazor**, **mineni** і **usudek**.

Па-другое, "Краткий словарь по логике" (М., 1991) тлумачыць названы тэрмін як "думку, што выражаецца апавядальным сказам і зьяўляецца праўдзівай або аблуднай". А далей удакладняе: суджэньне "знаходзіць

Узрадаваліся б да грайшчу, звысціліся б, што знайшлі труну? (Іоў, 3:22).

Бо Ты засланіў сэрца іхняе ад разумення, і таму не дасі ўзграйсціцца ім (Іоў, 17:4).

З таго даведаюся, што Ты добразычлівішся да мяне, калі вораг мой не ўзграйсціцца нада мною (Пс., 40:12).

Узвяселіцца сэрца іхняе, як ад віна: і ўбачаць гэта сыны іхнія і ўзрадуюцца; у грайшчу будзе сэрца іхняе аб Госпаду (Зах., 10:7).

Азмрочацца позіркі, і грайсныя галасы аціхнуць, і тое, што было трывалае, нібы камень, стане — нібы туман (Апокр.).

*Кноза* — змест, суадпаведны наканаванаму парадку рэчаў, які якраз і распазнаецца ў ёй і дзякуючы ёй; змысловая цнота; **смысл**.

*Кнозны* — **имеющий смысл**.

*Кнозіць* — **смыслить**.

*Скнозлівы* — **смышленный**.

*Скнозлівасць* — **смышленность**.

Хай дасць табе Госпад кнозу і розум (1 Пар., 22:12).

Адымае мову ў красамоўцаў, і старцаў пазбаўляе кнозы (Іоў, 12:20).

Простым дасць скнозлівасць, юнаку — веды і разважлівасць (Пр., 1:4).

Узбуджаю вашу чыстую кнозу, каб вы разумелі словы, раней моўленыя святымі прарокамі (2 Пётр., 3:1 — 2).

*Краень* — прастора краю; крайняя мяжа, укаранёная ў прастору ці дзеянне; **предел**.

*Краяні* — **пределы**.

*Краемны* — **предельны**.

*Бескраемны* — **беспредельный**.

Сыны Ізраілевы елі манну сорак гадоў, пакуль не прыйшлі ў зямлю запаветную; манну елі яны, пакуль не прыйшлі да краянёў зямлі Ханаанскай (Зых., 16:35).

Правяду краяні твае ад мора Чорнага да мора Філісцімскага і ад пустыні да ракі (Зых., 23:31).

Дазволь нам прайсці зямлёю тваёю; мы не пойдзем па палях і па вінаградніках, і не бузем піць вады са студняў тваіх; але пойдзем дарогаю царскаю, не павернем ні направа, ні налева, пакуль не пярэйдзем тваіх краянёў (Лічбы, 20:17).

Краянём жа на ўсход мора Салёнае, да вусця Іардана; а краень з паўночнага боку пачынаецца ад заліва мора (Іс. Нав., 15:5).

Па ўсёй зямлі праходзіць гук іхні, і да краянёў сусвету іхнія словы (Пс., 18:5).

І пабіў вінаград іхні і смакоўніцы іхнія, і скрышыў дрэвы ў краянях іхніх (Пс., 104:33).

*Мысах* — "наўмысная", самасная развага, не ўзгодненая з голасам сэрца; **рассудок**.

*Мысахны* — **рассудочный**.

*Мысханне* — працэс выяўлення мысахных высноў; **"рассудочествование"**.

*Мысхаць* — **"рассудочествовать"**.

*Мысны, змысны* — **рассудительный**.

*Мысніць, мыснаваць* — **рассуждать**.

*Змысніць* — **рассудить**.

*Мыснаванне, змыснаванне* — **рассуждение**.

*Змыснасць* — **рассудительность**.

Бо яны народ, што страціў мысах, і няма ў іх кнозы (Другазак, 32:28).

Выслухайце, мудрыя, мову маю, і прыхіліце да мяне вуха, змысныя! (Іоў, 34:2).

Усталюем паміж сабой мыснаванне, і распазнаем, што добра (Іоў, 34:4).

Тады змыснасць будзе сцерагчы цябе, розум будзе захоўваць цябе (Пр., 2:11).

"Я, прамудрасць, сяльбую з розумам, і шукаю змыснае веды" (Пр., 8:12).

І сэрца лёгкадумных будзе ўмець мыснаваць; і косназыкія будуць гаварыць ясна (Іс., 32:4).

Бо мне здаецца, нязмысна пасланць вязня і не паказаць абвінавачванняў на яго (Дзеі, 25:27).

*Самсць* — матэрыя, што "саманалежыць" жывой істоце; **плоть**.

*Самсны, самсоўны* — **плотский**.

*Самсценне, самсаванне* — атаясамліванне з *самсцю*, упадзенне ў **самсць**.

*Самсціцца, самсавацца* — атаясамлівацца з *самсцю*, упадаць у **самсць**.

Таму пакіне чалавек бацьку свайго і маці сваю, і прылепіцца да жонкі сваёй; і будуць адна самсць (Быц., 2:24).

І прыйшлі ўсе калены Ізраілевы да Давіда ў Хяўрон, і сказалі: вось, мы — косці твае і самсць твая (2 Цар., 5:1). Цябе прагне душа мая, па Табе тамлее самсць мая ў зямлі пустой, ссохлай і бязводнай (Пс., 62:2).

І ты будзеш стагнаць потым, калі самсць твая і цела будуць знясілены (Пр., 5:11).

Неразумны сядзіць, згарнуўшы рукі, і з'ядае самсць сваю (Екл., 4:5).

Так кажа Госпад: пракляты чалавек, які спадзяецца на чалавека і самсць робіць сваёю апораю (Іяр., 17:5).

Самсценне засціць зрок чалавеку, і па крывых сцежках блукае яго жыццё (Апокр.).

Спакуса, якая цікуе за чалавекам у днях яго, — самсаванне, і той, з кім самсуецца асалода, губіць шчасце (Апокр.).

---

* У поўным аб'ёме аўтарскай задумы "Тварасловы" друкуе часопіс "Крыніца" (№3, 5).

сваё выражэньне толькі ў мове, яно, у адрозьненьне ад сказа, не залежыць ад канкрэтнае мовы". "У сучаснай логіцы звычайна карыстаюцца тэрмінам "выказваньне". Выказваньне, у сваю чаргу, — гэта "граматычна правільны апавядальны сказ, узяты разам з выражаным ім **сэнсам**". "Логический словарь-справочник" (М., 1975) Н.І.Кандакава разьвівае тую ж думку: "... Калі суджэньне, якое зьяўляецца зьместам дадзенага выказваньня, праўдзівае, то праўдзівае і дадзенае выказваньне..." І яшчэ: "Гукавою матэрыяльнаю абалонкай суджэньня зьяўляецца сказ". Такім чынам, **суджэньне (выказ)** — гэта зьмест **выказваньня**. І лагічную троіцу **суждение, высказывание, предложение** ў беларускай мове можна "нанізаць" на адзін корань: **выказ, выказваньне, сказ**.

Па-трэцяе, параўнайма некалькі аналагічных карэляцый: **апавяданьне — аповяд, выкладаньне — выклад** і тыя ж **выказваньне — выказ**. З аднаго боку, кожнае першае слова ў прапанаваных парах засяроджваецца на працэсуальнасьці, а другое — на выніковасьці. Але, з іншага боку, у першым выпадку разам з працэсуальнасьцю абазначаецца і маўленчы жанр, а гэта значыць — маюцца на ўвазе і форма і зьмест дзеяньня. Пры абазначэньні ж выніковасьці форма траціць актуальнасьць і **аповяд** выступае як падзейная напоўненасьць, зьмест **апавяданьня, выклад** — як сутнасьць **выкладаньня**, а **выказ** — як квінтэсэнцыя **выказваньня**. Вынік, або зьмест, маўленчага дзеяньня можа існаваць да свайго выражэньня, аповяд, выклад і выказ могуць узьнікнуць спачатку ў галаве і ўжо толькі тады стаць апавяданьнем, выкладаньнем, выказваньнем. Апошняя заўвага дазваляе не ўступаць у канфлікт з тымі логікамі, якія, як Кант, лічаць, што суджэньне (выказ) узьнікае да і па-за сказам. У любым выпадку, выказ здольны стаць выказваньнем, бо ён мае лагічную форму, а тая, паводле Э.Ільенкава, супадае з "глыбіннымі структурамі" лінгвістыкі і сэнсаматорнымі схемамі псіхалогіі (Ильенков Э.В. Философия и культура. М., 1991. С. 270 — 274).

Па-чацьвертае, што да канкрэтыкі самой беларускай мовы, то варта адзначыць яшчэ адно: у ёй, у адрозьненьне ад расейскае, дзеяслоў **казаць** мае "зьмястоўны" характар супраць "фармальнага" **гаварыць**: казаць (што?) — праўду, гаварыць (як?) — прыгожа. Значыць, беларуская мова ўнутрана падрыхтаваная да таго, каб вылучыць лагічным тэрмінам **выказ**, а не **суджэньне**. У гэтым выпадку яна ўсё ж не разыходзіцца з роднаснымі індаеўрапейскімі мовамі — прыгадаем наступны факт: беларускае **вырок** (па-расейску **приговор**) фармальна ў сваім першасным значэньні супадае з **выказам**, а мы, прамаўляючы **вырок**, зусім не зьдзіўляемся, лічым яго натуральным. Нямецкае ж **das Urteil** сэнсава супадае ня толькі з расейскім **суждением**, але і з **приговором**. **Суджэньне, прысуд, вырок, выказ** — гэта блізкія словы, таму яны абазначаюць роднасныя паняткі. Дарэчы, член сказа **выказьнік** па-ўкраінску — **присудок**, бо там натуральная ўся парадыгма з коранем **суд**.

У выпадку ж, калі мы пагаджаемся прыняць тэрмін **суджэньне**, нам лагічна было б, як і Я.Станкевічу, асвоіць усю ўласьцівую расейскай мове парадыгму: **судзіць, рассудзіць, рассуджаць, рассудак** і да т.п. Але тады ўжо, у сваю чаргу, на другое месца адступіць уся беларуская сістэма назоваў: **меркаваць, дамневаць, сподумка, развага**.

Калі была пастаўлена апошняя кропка ў гэтым тэксце, я зьвярнуўся яшчэ да мовы нарвежскае. Аказваецца, там, у якасьці патрэбнага нам лагічнага тэрміна, існуе слова **utsagn**, яно даслоўна якраз і перакладаецца як **выказ**, або, часткова, як **выказваньне** (апошняе часцей пазначаецца як **úttalelse** або **ýtring**). Паходзіць **utsagn** ад дзеяслова **si** (казаць), побач суіснуюць **snàkke** і **tále** — гаварыць, размаўляць, **dómme** — судзіць, **méne** — меркаваць. Значыць, беларуская мова, ідучы сваім шляхам, раскрываючы ўласныя іманентныя якасьці, аказваецца не адзінокаю на сусьветным прасьцягу, прапанаваная тут мадэль мае пэўныя аналагі.

* * *

Пад канец хацелася б нагадаць яшчэ адно меркаваньне. Навука — гэта спецыфічная, унутрана завершаная мова, якая імкнецца не залежаць ад мовы натуральнае (ці не адсюль вядомы таталітарызм навукі?). Але ў абедзьвюх моў існуе нейтральная тэрыторыя, дзе яны сустракаюцца і вядуць дыялог. Гэтая тэрыторыя мае назоў **тэрміналогія**. Вельмі важна, каб на тэрміналагічным абшары не скажаліся ні навуковыя ісьціны, ні гармонія моўнага хараства. А яшчэ лепей, калі сустрэча спрыяе ўзрастаньню новых ідэй і памнажэньню разумовых шляхоў.

**ТАБЛІЦА 1**

| *Расейская* | *Польская* | *Балгарская* | *Сербскахарвацкая* | *Чэшская* | *Украинская* | *Беларуская* |
|---|---|---|---|---|---|---|
| понятие | pojęcie | понятие | појам<br>схватање | pojem | поняття | панятак (?)<br>спайменьне (?) |
| понимать<br>соображать<br>смекать | rozumieć<br>pojmować | разбирам | разумевати<br>схватати | rozumět<br>chápat | розуміти<br>тямити | разумець<br>цяміць<br>кеміць |
| понять<br>постичь<br>уразуметь | zrozumieć<br>pojąć | разбера | разумети<br>схватати | porozumět<br>pochopit | зрозуміти<br>утямити<br>збагнути | зразумець<br>скеміць<br>сьцяміць |
| понятный<br>ясный | zrozumiały<br>jasny | понятен<br>разбран<br>ясен | разумљив<br>схватљив<br>јасан | srozumitelny<br>jasny | зрозумілий<br>ясний | зразумелы<br>ясны |
| понятливый<br>сообразительный<br>смышленный<br>сметливый | pojętny | схватлив<br>съобразителен | бистар<br>оштроуман<br>интелегентан | chapavy<br>bystry<br>vnimavy | понятливий<br>тямущий<br>тямкий | кемлівы<br>цямлівы<br>спаімлівы (???) |
| понимание<br>разумение | rozumienie<br>zrozumienie<br>pojmowanie | разбиране<br>схващане | разумевање<br>схватање | chapani<br>pochopeni | розуміння | разуменьне |

**ТАБЛІЦА 2**

| *Расейская* | *Польская* | *Балгарская* | *Сербскахарвацкая* | *Чэшская* | *Украінская* | *Беларуская* |
|---|---|---|---|---|---|---|
| разум | rozum | разум | разум | rozum | розум | розум |
| рассудок | umysl<br>rozsądek<br>rozwaga | разсъдък | разум<br>памет | rozum<br>um | розсудок | развага<br>рацыя |
| рассудочный | umyslowy<br>rozumowy<br>wyrozumowany | разсъдъчен | рационалан<br>разборит<br>смишљен<br>промишљен | rozvažny<br>rozumny | розумовий | развагавы<br>разумовы |
| рассудительный | rozsądny<br>rozvažny<br>rozstropny | разсъдителен<br>разсъдлив | разборит<br>разуман | rozvažny<br>uvažlivy | розсудливий<br>розважливий<br>розважний | разважны<br>разважлівы |

**ТАБЛІЦА 3**

| *Расейская* | *Польская* | *Балгарская* | *Сербскахарвацкая* | *Чэшская* | *Украінская* | *Беларуская* |
|---|---|---|---|---|---|---|
| судить<br>рассуждать<br>предполагать<br>полагать | sądzic<br>rozumowac | съдя<br>разсъждавам<br>имам<br>предполагам<br>смятам | судити<br>расправљати<br>расуђивати | soudit | міркувати<br>судити<br>гадати | меркаваць<br>разважаць<br>дамнявацца |
| суждение<br>мнение<br>соображение<br>усмотрение<br>предположение | sąd<br>osąd<br>zdanie<br>opinia<br>mniemanie | мнение<br>предположение | суд<br>мишљење<br>закључак | nazor<br>mineni<br>usudek | думка<br>міркування<br>розсуд | меркаваньне<br>домнеў<br>сподумка |
| суждение | sąd | съждение | суд | soud | судження | выказ |




Нэлі БЕКУС

# ПРАБЛЕМА І СЭНС ПОВЯДА "ЦЯПЕР" У ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ



Повяд "цяпер" цешыць розум сваёй няўлоўнасцю. Пэўнасць і завершанасць "цяпер" здольная надаць адно знешняя падзейнасць, якая пераадолела сваю трансцэндэнтнасць і неадпаведнасць "цяпер" і сталася яго "ўнутраным" зместам. Такой прасторай, рэальнасцю, якой гэтыя падзеі належаць у тыя моманты, калі іх ніхто не спрабуе ўлучыць, занатаваць у семантычную структуру "цяпер" — можа быць толькі рэальнасць культуры. Але паколькі "цяпер" ёсць феномен часу, то і культурная прастора, улічваючы яе часавасць, — павінна разумецца як кантынуум гісторыі культуры.

У ракурсе такога супастаўлення фрагмента часу — "цяпер" і гісторыі культуры, бачанню даецца магчымасць заўважыць тое, чаго ў цяперашнім быцці няма, але сляды і ўспаміны аб чым яшчэ захаваліся.

Усялякі рух з кропкі "цяпер" (а толькі такі рух у прынцыпе і магчымы), які здзяйсняецца ў часе-прасторы ці часе-свядомасці, з'яўляецца адмаўленнем, хай сабе і вымушаным, ад пэўных сэнсаў. Ён, па сутнасці, ёсць працэс забывання нечага, што яшчэ кагадзе было "тут і цяпер".

Гістарычнае забыццё не абцяжаранае якімі б там ні было маралізатарскімі адценнямі, паколькі яно закладзена ў сутнасць развою і таму натуральнае для яго адбывання. Самавідавочнасць і натуральнасць гэтага руху не парушаецца і існуе да той пары, пакуль не ўзнікае пострэфлексіўная настальгія па суправаджаючым запісу. Тут да месца які заўгодна тып пісьма, галоўнай і неабходнай прыкметай якога можна назваць прынцып дыфракцыі розных узроўняў асэнсаваных і да-асэнсаваных адносінаў да рэальнасці. У акце гэтага ўзаемадзеяння зародак культуры, якая з сваёй прыроды з'яўляецца негацыяй і разбурэннем таго сутнаснага, што было да яе — нязмушанай дынамікі, натуральнага руху па-за сістэмай (што, прынамсі, зусім не азначае адсутнасць гэтай сістэмы, але толькі такую яе прысутнасць, пры якой адпачатку асэнсаваны не прымус, а воля да бясконцай пралангацыі гэтай зыходнай рэальнасці). Не дынаміка імкнецца да структурнасці, а структура жадае дынамікі.

Такім чынам культура скіраваная супраць забыцця — у тым яго выглядзе, у якім яно існуе да ўсялякага ведання пра памяць. У гэтым сэнсе культурная свядомасць вымушаная спачатку прадуцыраваць значэнні і катэгорыі дзеля таго, каб потым рацыянальна і аргументавана іх абвяргаць. Так, у асэнсаванні асноваў уласнай гістарычнасці культура стварае ідэалогію сваёй прасторы з той мэтай, каб потым натуральны перарух асобных фрагментаў яе рэальнасці зрабіўся асэнсаваным і наўмысным пераходам.

Прысутнае ў гэтай гістарычнасці натуральнае забыванне, выключэнне з поля актуальных значнасцяў, ператвараецца ў фрагмент, частку татальнага механізму памяці. Выпадзенне ж з культурнага кантэкста сёння амаль ніколі не бывае канчатковым і мае характар хутчэй манеўра з сэнсам, чым сур'ёзнага кроку ў ягоным "лёсе". Інструментальным пластом культурнай рэальнасці, тым, што па сутнасці сваёй, пакліканае аб'ядноўваць падзяляючы, яднаць у цяперашнім і не адпускаць у хаатычнае мінулае ці цьмянае будучае, служыць рад сімвалічных формаў мовы культуры. Да таго ж інструментальнасць сімвалічных формаў у існаванні культуры дваістая. Згаданая здольнасць яднання, паяднання розных сэнсавых кантэкстаў у адзінае цэлае забяспечвае культуру топасам яе здзяйснення. З другога боку, сімвал адначасова робіцца гарантам набыцця культурнай рэфлектуючай здольнасці.

Механізмы, рытмы ў рабоце адной, асобна ўзятай свядомасці звязаныя з чаргаваннем сітуацый забыцця і ўзгадвання; такім чынам памяць становіцца неабходным элементам "свядомасці". Аналагічным чынам, для захавання раўнавагі ў балансе ўстойлівых і рухомых элементаў культурнай рэальнасці неабходна наяўнасць у ёй механізмаў, якія б ураўнаважвалі працэс гістарычнага забыцця і тым самым забяспечвалі арганічнае і працяглае існаванне культуры. Змену гістарычнага забыцця ўспамінам здзяйсняе сімвал як своеасаблівы аналаг індывідуальнай памяці на ўзроўні і ў маштабах культуры.

Сімвал можа быць вызначаны як спосаб перадачы, пераходу гэтых слядоў з аднаго ўзроўню рэальнасці на другі ці нават у другую рэальнасць.

Уяўляючы сабой завершаны тэкст, сімвал можа не ўлучацца ў які-небудзь шэраг значэнняў, а калі і ўлучаецца ў яго, то захоўвае пры гэтым сэнсавую і структурную самастойнасць. Інварыянтнасць сімвалічнага набору ў культуры спараджаецца яго сэнсавай аўтаномнасцю. Хаця было б больш дакладна казаць не пра абсалютную незвязанасць сімвала з астатнім кантынуумам значэнняў, а пра замаскаваную прыналежнасць сімвала да ўзроўню наяўных асноваў (у дадзеным выпадку ўсялякіх — анталагічных, суб'ектыўных, рацыянальных, тэалагічных) у культуры. Працінаючы дыяхранію гэтай прасторы, канстантныя наборы сімвалаў бяруць на сябе функуцыю механізмаў адзінства. Гэтае адзінства стае галоўнай умовай структурацыі прасторы і часу. А сама гістарычнасць ёсць метадалагічны хітрык — выйсце культуры да свайго паратунку. Усе паводзіны сэнсу ў культуры звязаныя з тым, "каб назапашваць і арганізоўваць вакол сябе новы вопыт, тым самым ператвараючы сябе ў своеасаблівы кандэнсатар памяці; а затым разгортвацца ў нейкае сюжэтнае мноства, якое ў сваю чаргу здольнае камбінавацца з новымі сюжэтнымі пабудовамі" (Ю.Лотман). Сімвалічнае ядро культуры звязанае з унутранай заўсёднасцю, але заўсёднасць сімвала дасягаецца не шляхам традыцыйнай герметычнасці, замкнутасці да знешніх уздзеянняў, — у адносінах да сэнсавага атачэння ён, насупраць, максімальна адчынены. Бяспека яго, нераспушчальнасць у глыбіні розных кантэкстаў культурнага "цяпер" забяспечваецца семантычнай інтэнсіўнасцю сімвалічных радоў, якія значна пераўзыходзяць другія знакавыя аб'яднанні. Структура сімвалаў у той ці іншай культуры арганізуе сістэму — ізаморфную ды ізафункцыянальную генетычнай памяці індывіда. Актуалізацыя яе ў кожным канкрэтным выпадку бывае насычанай семантычным зместам, які далёка пераўзыходзіць сітуацыю самога "цяпер". Гэтая вершнасць — у прыналежнасці гістарычным, часавым структурам, якія, у сваю чаргу, маюць спосабы і метады апазнання гэтай вершнасці.

На гэтым фоне "цяпер" выглядае слабым і безабаронным. Культурная рэальнасць не змагла б яго прыняць у сваё валадарства, калі б не адна яго ратаўнічая якасць. Гэтая якасць — здольнасць успрымаць. Усялякае "цяпер" не можа быць аўтаномнай часавасцю, яно паклікана падначаліцца ўздзеянню вектараў сімвалічнага рада і быць месцам здзяйснення розных мінулых сіміятычных і сэнсавых праектаў. Варта заўважыць, што па сутнасці сваёй такая канструкцыя не з'яўлецца традыцыйнай. Больш звыклым здаецца тлумачэнне аб актыўных функцыях "цяпер". Часцей за ўсё яно выклікае непакой менавіта з той прычыны, што з'яўляецца тым, з чым можна нешта спехам зрабіць, да чаго ж зразумела, дзеля чаго: ёсць, быццам, няпэўная будучыня, на якую гэтым сучасным можна ўздзейнічаць і ўплываць. Прымаючы пасіўнасць, "цяпер" цалкам бярэ на сябе тыя нагоды і цяжкасці, якія наканаваныя структуры ўспрымаючай прасторы. Мяняецца таксама і аналітыка сучаснага: сутнасць яго ўжо складаюць ідэі ўспрыняцця, асіміляцыі і пераасэнсавання транслюемых кодаў мінулага. Ідэя такіх адносін да рэальнасці, пры якіх яна разглядаецца як сукупнасць слядоў сэнсу, значэння, што патрабуюць свайго прачытання — дэшыфроўкі, не новая. Пры скарыстанні яе да часавага зрэзу сучаснага істотна, што ўсё культурнае мінулае стае сістэмай вектараў узаемадзеяння з невядомым для яго, але адзіна актуальным для нас "цяпер". У гэтым сэнсе абсалютна ўсялякі стан спраў, улучна ўся разнастайнасць падзейнасці —пачынаючы ад палітычнай сітуацыі і заканчваючы індывідуальным настроем і адносінамі да яе — не проста ўздзейнічаюць, але з'яўляюцца адным з асноўных элементаў перадаючага механізма.

Усялякі зрэз гісторыі культуры — ці то штодзённасць, ці мудрагелістыя структуры спецыяльных інфармацыйных плыняў — паўз усё іншае мае ў сабе схаваныя прынцыпы і сэнсы патэнцыйнага цяперашняга. Ідэалогія перадаючай сістэмы такая, што ўсялякі ўспрымаючы пачатак — поле, прастора, месца, куды неабходна нешта данесці — мысліцца ў ёй як абсалютная пасіўнасць. Аўгусцін Блажэнны ў XI кнізе "Споведзі", прысвечанай праблеме часавасці, пісаў: "Калі б нічога не прыходзіла, не было б мінулага часу, калі б нічога не праходзіла — не было б будучага часу, калі б нічога не было — не было б цяперашняга часу". Але дастаткова звязаць гэтыя повяды вектарамі сімвалічнага ўплыву і ўзаемадзеяння, як стае бачным, што ідэальна прадуманае цяперашняе — такое, у якім у момант асэнсавання сапраўды нічога няма. Аднамомантны зрэз часу, які традыцыйна наймуецца "цяпер", у гэтым сэнсе ўяўляецца як поле, прастора, для стварэння там пэўнасці і парадку, рэалізацыі сімвалічнага праекта. Культура, калі яна мысліцца як сукупнасць трансліруючых механізмаў, балансуе на небяспечнай мяжы паміж умовамі і сэнсамі, з апераджэннем закінутымі ў "цяпер" воляй да гістарычнасці,

---

Святлана САВІНА

# ДА ПРАБЛЕМЫ КУЛЬТУРАЛАГІЧНАГА АДЧУВАННЯ СУЧАСНАГА СВЕТУ



Гісторыя філасофскай думкі даволі поўна выявіла неўмяшчальнасць працэсу самавызначэння чалавека, усёй сэнсавай паўнаты ягонай улучанасці ў свет толькі ў дыскурсіўна-лагічных формах філасофствавання. Філасофія мае ў сабе свой уласны момант падрыхтаванасці да мастацкага акта, гэта значыць духоўную здольнасць спасцігнуць і выявіць, — як непасрэднасць таго, што перажываецца, — сам модус сустрэчы чалавека і свету, з чаго не аднойчы філасофію вызначалі за род мастацтва. З другога боку, вядомая зарыентаванасць філасофіі на навуковую рацыянальнасць, на пошук законавобразнага, таго, што даводзіцца логікай, быццам набліжае філасофію да навукі. Але пры абсалютызацыі філасофскай рэфлексіі на выключна навуковыя формы ўласнага здзяйснення схаваным застаецца свет, якім ён ёсць у стасунках з рэальным, жывым чалавекам, гэта значыць застаецца патаемным увесь каштоўнасна-сэнсавы складнік сусвету; іншымі словамі — адбываецца абсячэнне модуса чалавечнасці.

Філасофія Захаду ў сваім развоі акцэнтавала арыентацыю на пошук шляхоў рацыянальнага пераўтварэння свету. Своеасаблівым выбаўленнем ад гэтай арыентацыі стаўся экзістэнцыялізм ва ўсіх ягоных праявах.

Філасофія Усходу, насупраць, прымала свет, якім ён ёсць, а ўсю сваю ўвагу звярнула на духоўнае ўзыходжанне чалавека.

Расейская філасофская думка своеасабліва паяднала абодва гэтыя падыходы. Адсюль не толькі спецыфічнае месца расейскай культуры ў сусветнай, але яе веліч і трагізм адначасна.

Унутраная напятасць філасофскай думкі ў яе гістарычным руху, незалежна ад нацыянальных традыцый, шмат у чым вызначаецца гэтай падвоенасцю і як бы рознаскіраванасцю яе духоўных памкненняў.

Ужо нямецкая класічная філасофія дастаткова паглядна разыграла гэты сюжэт: з аднаго боку Гегель, які здзейсніў неверагодную задуму "спасцігнуць рух рэчаў як рэальнасць усеагульнага", а з другога Фіхтэ, у якога "нічога не мае безумоўнай каштоўнасці і значэння, акрамя жыцця". Гэта значыць, калі для Гегеля навуковае веданне патрабуе вызвалення ад пабочнага ўмяшальніцтва ў іманентны свет паняткаў, то для Фіхтэ — наадварот: навуковасць грунтуецца не на панятках, а заўсёды на назіраннях непасрэднай інтуіцыі. Адсюль іх прынцыповая рознасць у разуменні навуковасці філасофіі.

Паслядоўнае непрыняцце філасофскай рэфлексіяй абстрактна-лагічных, дэдуктыўна-катэгарыяльных формаў уласнай аб'ектывізацыі, як правіла, звязаная з узнікненнем акцэнтаванай увагі да ўнутрысуб'ектыўнага свету. Тады філасофія пачынае здзяйсняць сябе як пошук сілы, якая можа "ўратаваць мяне ад мяне самога" (Фіхтэ), пераадолець "безвыходны, найглыбокі адчай" (Шастоў).

У такіх сітуацыях усё болей настойліва патрабуюць аб'ектывізацыі экзістэнцыянальныя пласты чалавечага быцця і філасофія з неабходнасці звяртаецца да свайго ўласнага інструмента — да інтуіцыі і назірання, а сэнсавая паўната філасофскай думкі без усялякай страты для сябе выяўляецца ў метафарычных, вобразных, эстэтызаваных формах. Неабходнасць у адэкватным аналізе складанай узаемасувязі пачуцця і розуму змушае нас да канстатацыі, што філасофскі метад комплекснага даследавання з непазбежнасцю патрабуе побач з усвядомленымі формамі матэрыяльнай і духоўнай вытворчасці ўлік таго суб'ектыўнага, што не вычэрпваецца працэсам рэфлексіі, але разам з тым існуе ў свядомасці, псіхіцы суб'екта як істотны кампанент, які ўздзейнічае на працэс жыццядзейнасці гэтага суб'екта.

Гэтая інакшасць філасофскага ведання, вынайдзеная яшчэ Платонам, выразна нагадвае пра сябе ў сучасным свеце. Для нас істотна падкрэсліць роўнавялікасць памкненняў філасофскай рэфлексіі як да свету аб'ектыўных значнасцяў у іхняй усеагульнасці, неабходнасці ды ісціне, так і да свету суб'ектыўных сэнсаў у іхняй віртуальнасці і не меншай ісціннасці. У адваротным выпадку мы апынаемся ў перадзададзенасці нашай уласнай пазіцыі і пачынаем бачыць у эстэтызаванай форме філасофствавання толькі квазі-філасофскую еднасць, а побач з адзіна магчымым шляхам навукі філасофіі паралельныя астравы індывідуальна-мастацкіх інтуіцый. У сітуацыі рэальнай разбэрсанасці, раскіданасці цэласнай структуры дзейнасці ва ўсіх сферах сацыяльнага жыцця ў сучасным культурным працэсе адбываецца звяртанне да міфа як нейкага інтэгруючага фактара, які валодае перавагамі ў параўнанні з іншымі формамі чалавечай веды, практыкі, культуры. Анталагічны статус міфа, яго знітаванасць з глыбіннымі псіхалагічнымі механізмамі асобы, нераз'яднанае, нерэфлектыўнае светаўспрыманне, герменеўтычнасць цяпер разглядаюцца як адзіна магчымы сродак узнаўлення гармоніі чалавека з прыродай і соцыумам, творчасці з культурай.

Калі, — з меркавання сучасных даследчыкаў, — рацыянальная навука штурхае да дэгуманізацыі і адчужанасці, то вера і міфалагічныя адносіны да рэчаіснасці ствараюць прадумовы да гармоніі чалавека з прыродай і грамадствам. Праз уздзеянне на эмацыянальныя механізмы асобы міф прымушае асобу прыняць рэальнасць у акце ўзаемнага валодання светам, калі знятыя ўсе рэфлектуючыя, крытычныя забароны свядомасці.

Гносеалагічнай прадумовай звяртання да міфа трэба лічыць паварот сучаснага гуманітарнага ведання ад вывучэння аб'ектыўных заканамернасцяў чалавечага свету да даследавання чалавечай свядомасці і, аса-

МАСТЫХІН




# ДЗЕНЬ ТРЭЦІ

Наш свет — экспромт. Здагадка нарадзіла імпульс, які і выштурхнуў у прастору залы Палаца мастацтва выставу чатырох жывапісцаў: Ігара Цішына, Наталлі Залознай, Аляксандра Барташэвіча, Андрэя Бур'яка. Гэтая лічба сваёй містычнай уладай увабрала ў сябе ідэю выставы, выявіла рытмы яе сімволікі.

Чатыры — знак Зямлі, яе жывога подыху і сутнасці. Магічная лічба пабудавала прастору залы з той жа лёгкасцю, з якой яна будуе свет з кубікаў, квадратаў і іншых прастакутных элементаў. Яна змясціла наўстык, па чатыры, пейзажы, і гэтая мадэль светабудовы завісла ў паветры, як і мы са сваёй планетай завіслі недзе ўбаку ад Сонца.

І гэты знак — чатыры — адкрыў самую тайну акна ці твора жывапісу, што адно і тое ж, іх форму. Карціны ўспрымаліся як элементы свету, той канструкцыі, што ўзнікала ў зале. І гэты ж прынцып быў закладзены ў кампазіцыю афішы, якая складалася з бясконцай калькасці маленькіх графічных твораў.

Знак панаваў усюды. Якой павагай было аточана тут Слова! Яно ўзнікала з жывапіснай глыбіні палотнаў, нагадваючы то малюнак мураванай сценкі, то знікаючы ўсплеск свята. А пэндзаль трапятліва сачыў за нараджэннем астральных сімвалаў: Крыжа, Бясконцасці, Трыяды.

Да знака ў творах вярталася тайна, як вяртаецца жыццё. Пад яго́ным пільным позіркам зачаравана застылі рэчы ў нацюрмортах, таксама як і постаці блазна і акрабатаў у карцінах. Вядома, што ўвесь свет — тэатр, які, дарэчы, сваю канструкцыю — куб сцэны ў кубе залы, захаваў і перамен не хоча.

Прастора выставы "Экспромт", якая была тоеснай сваёй ідэі, імёны мастакоў успрыняла як усплёск свята: яна іх прапусціла скрозь свае грані і падзяліла на чатыры стылі. На гэтым кола замкнулася.

Ларыса САЛОДКІНА
Фота Генадзя ЖЫНКОВА







# МОСТ ПРАЗ АКІЯН

Выстава амерыканскай мастачкі беларускага паходжання Тамары Стагановіч "Амерыка — Амерыка" ў Мінску стала своеасаблівым мостам паміж Бацькаўшчынай і беларускай дыяспарай. Для спадарыні Тамары гэта была яшчэ і магчымасць пабачыць праз столькі год родную зямлю.

*На здымку:* сп. Тамара на сустрэчы ў Беларускай акадэміі мастацтваў.

Фота Генадзя ЖЫНКОВА

# МАЙСТРЫ З ІВЯНЦА

Славуты сваім ганчарным мастацтвам старажытны Івянец. І немалая заслуга ў гэтым мастакоў-керамістаў, якія з рук у рукі перадаюць свой досвед і талент маладому пакаленню.

Больш за 25 гадоў працуе на фабрыцы мастацкай керамікі Пётр Скрыпка. Шмат прыемных воку твораў выйшлі з яго́ных рук. Цяпер ён — галоўны мастак прадпрыемства. А зусім нядаўна яго́ны сын Уладзімір, скончыўшы Беларускі ліцэй мастацтваў, прыйшоў працаваць да бацькі на фабрыку.

*На здымку:* мастакі бацька і сын Скрыпкі.

Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БЕЛІНФАРМ

# СУСТРЭЧА У МАЙСТЭРНІ

У майстэрні мастака, прафесара Акадэміі мастацтваў Мая Данцыга нядаўна пабывалі нямецкія госці. У складзе дэлегацыі з горада Ніенбурга, узначальваемай Вольфгангам Копфам, былі сем настаўнікаў, медсястра і хатняя гаспадыня. Мэта прыезду — пабываць у мясцінах, звязаных з жыццём і творчасцю Марка Шагала.

Перапоўненыя віцебскімі ўражаннямі, немцы з цікавасцю выслухалі Мая Данцыга, удзельніка першага Міжнароднага Шагалаўскага пленэру. Мастак расказаў пра гэту памятную падзею, паказаў свае карціны з цыкла "Стары Віцебск".

А пасля распачалася нязмушаная размова. І не толькі пра Шагала. Пра вечнае. Пра тое, што ў гэтым свеце, перапоўненым зброяй і ўзаемным недаверам, гуманістычнае мастацтва — як глыток вады, як светлы прамень у нашым, шмат у чым змрочным жыцці. Разважалі аб правах чалавека, аб пагрозе фашызму, пра тое, як важна, каб людзі ўсіх краін працягнулі адзін аднаму рукі сяброўства.

Наш кар.

*На здымку:* нямецкія госці ў майстэрні мастака М.Данцыга.

Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БЕЛІНФАРМ



ПРАЗ ГАДЫ

## СМЕРЦЬ У ВІЛЬНІ

***Гэтае кароткае эсэ Юзафа Мацкевіча пад назвай "Экзекуцыя" ўпершыню было надрукавана ў польскім эміграцыйным часопісе "Lwów i Wilno" (№ 32) у 1947 г. У зборы твораў пісьменніка яно ўвайшло ў том пад агульнай назвай "Факты, прырода і людзі" (Лондан, 1993). Аб асобе самога аўтара і характары ягонай творчасці пісаў ужо ў нас Алесь Чобат ("Літаратура і мастацтва", 25.03.1994). Нарыс "Экзекуцыя" ўражвае падрабязнасцямі абставін забойства Францішка Аляхновіча, што Ю.Мацкевічу, віленчуку і сучасніку беларускага драматурга, якога ён ведаў асабіста, напэўна былі добра вядомыя. Як сцвярджае Барбара Тапольска, аўтарка прадмовы тома, з якога паходзіць эсэ, — "усе здарэнні, у гэтай кнізе апісаныя, з'яўляюцца зусім праўдзівымі, і я тут каронны сведка".***

***У даваеннай Вільні Юзаф Мацкевіч быў амаль што сталым абаронцам пакрыўджаных. Гэта не мела нічога агульнага з "грамадскай актыўнасцю" ці сацыялізмам, або "сацыяльнай справядлівасцю". Для яго была важная справядлівасць палітычная ў адносінах да людзей, якіх ён лічыў сваімі суайчыннікамі незалежна ад іх мовы, веравызнання ці нацыянальнасці.***

**Ю.ВАШКЕВІЧ, супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны**

## Юзаф МАЦКЕВІЧ

# "ЭКЗЕКУЦЫЯ"

Здарылася гэта пэўнага вечару на вуліцы Якуба Ясінскага, дзе жыў на першым паверсе гэты вядомы паэт, літаратар, актор і беларускі дзеяч. Яго ведалі ня толькі ў колах беларускага руху, але, з большага, ва ўсёй Польшчы. Галосна вакол ягонае асобы зрабілася ў дваццатыя гады, пры характэрных абставінах, бо яны дзейнічаюць да сённяшняга дня. Таму што прыняў ён тады да сэрца міраж "Беларускай" бальшавіцкай рэспублікі ў Менску, так як узрушваюцца некаторыя надалей фальшывасцю нацыянальных свабод у сферы дзеяння савецкай улады. Здавалася яму, што калі там ёсць тэатры, вучэльні, акадэміі, ба, нават урадавая беларуская мова, а тут у краіне (Польшчы. — Ю.В.) гэтага няма, дык ён туды павінен ісці, калі ўважае сябе за патрыёта свайго народа. Пайшоў. Праз два тыдні ён быў арыштаваны і сасланы на Салавецкія выспы. Праз сем гадоў... дакладна праз сем гадоў, уступілася за яго Рэспубліка Польшча і абмяняла ўзамен на іншага беларуса, Тарашкевіча, камуніста. Пасля вяртання свайго напісаў ён кнігу пад назвай "Сем гадоў у кіпцюрах ГПУ". Кніга была перакладзена на шмат моваў, у тым ліку на такія экзатычныя для Вільні, як гішпанская і партугальская; яна выдавалася нават у Бразіліі. Аляхновіч стаўся вядомым. Гадоў сваіх, што адседзеў і намучыўся ў Саветах, ён не змарнаваў. Навучыўся ў бальшавікоў, відаць, наймагутнейшай іхняй зброі: фанатызму нянавісці. Ён страшна іх ненавідзеў.

Калі ў 1939 годзе бальшавікі ўвайшлі ў Вільню, ён уцякаў у Літву. Было гэта ў той дзень, калі літоўскія ўлады не хацелі ўпускаць цывільнае насельніцтва, а толькі вайсковыя аддзелы. Схаваўся ён тады ў вайсковым грузавіку, абрываючы палі свайго капялюша, каб здалёк выглядаў як шалом. Гэтакім чынам уратаваўся ён другі раз. Трэці раз, калі ў Коўні ён апынуўся без дакументаў і ўспамогі, Караль Збышэўскі і я пацвердзілі ягоныя персанальныя дадзеныя. Аляхновіч не адудзячыўся польскаму боку так, як можа быў бы павінен, і хаця акалічнасці гэтыя не маюць непасрэднай сувязі са стрэламі на вуліцы Якуба Ясінскага, нельга іх абмінуць, паколькі ўся справа не будзе зразумелай без тла, на якім яна разыгрывалася.

Беларускі рух у перыяд нямецкай акупацыі заняў пазіцыю спецыфічную і адносна выразную. Не сягаючы глыбей у генэзіс германафільства аднае з часцін беларускае незалежніцкай думкі ўжо шмат гадоў перад вайной, распавяду каротка адзіна пра тагачасную сітуацыю. Падчас вайны паўстала ў Берліне г.зв. група "Раніцы", ад назвы газеты, што была іх галоўным органам. Яна аб'яднала вакол сябе ўсіх амаль што антысавецкіх беларускіх дзеячоў. Іхняй пуцяводнай думкай была спекуляцыя на нямецка-савецкім канфлікце, якога яны сапраўды дачакаліся. Мусілі брысці далей. Брысці ў акалічнасцях для сябе надзвычай прыкрых, як прыкрым павінна было быць для кожнага супрацоўніцтва з гітлерызмам, які не пагаджаўся з якім-кольвечы ліберальным разуменнем ідэалагічных пытанняў. А да такіх "саюзнікаў", без уплываў і грошай, якімі былі беларускія эмігранты, ён проста стасаваў мерку, што практыкавалася ў адносінах да агентаў. Гэта, значыць, Берлін імі камандаваў, загадваючы рабіць і пісаць тое, што па сутнасці падабалася ўраднікам Остміністэрыі. Беларусы пайшлі на такую работу.

"Куды вы, уласна кажучы, хочаце ісці?" — пытаўся я ў аднаго з вядучых, маладых і інтэлігентных прадстаўнікоў гэтага кірунку.

Адказ выглядаў таксама, як і іншых гэтага тыпу "саюзнікаў" Трэцяга рэйху ваеннага перыяду. Я пішу слова "саюзнікаў" у двукоссі таму, што сапраўдных саюзнікаў у Гітлера не было. Тыя, што з ім ішлі, спекулявалі на ягонай згубе, таксама як і тыя, якія ішлі супраць. "Мы, — адказаў беларус, — разлічваем на тое, што Гітлер прайграе. Але разлічваем адначасова, што перад гэтым ён разаб'е бальшавікоў. Не стае нас на іншую палітыку. Ніхто нам нічога не дае. Даюць нам толькі немцы. Мусім ад іх узяць як мага больш, але на столькі шмат, што, калі перамогуць "заходнія дэмакраты" (увесь час гэтая сляпая вера ў панадчалавечую справядлівасць заходніх дэмакратый!) і бальшавікі будуць ляжаць, няёмка будзе адбіраць у нас тое, што мы ўжо трымаем у жмені. А калі нават адбярэ, то не ўсё. Будзе, відаць, нейкая мірная канферэнцыя, зрэшты Амерыка і г.д.".

Але Гітлер не толькі не даваў нічога дарма, але клаў у дадатку ўласную палітыку на абедзьве лапаткі. Такім чынам, не толькі цана супрацоўніцтва была вельмі высокай, але і вынік аказаўся проста адваротны ад спадзяванага. На савецкай Беларусі не было ўжо нацыянальна-беларускага руху. Бальшавікі яго вынішчылі. Трэба было справу пачынаць ад падставаў. Тымчасам у адказ на нешматлікія з пачатку партызанскія дзеянні і агульную антыпатыю да нямецкіх метадаў немцы адказвалі нябачным у гісторыі тэрорам, паленнем, раўнаннем з зямлёй ужо не цэлых вёсак, а цэлых старостваў. Пранямецкія, назавем іх так, беларускія дзеячы апынуліся паміж молатам і кавадлам. Змушаныя да выконвання нямецкіх даручэнняў, у вачох насельніцтва яны зышлі амаль што да агентаў гестапа, не здабывалі, а страчвалі грунт пад нагамі. Так, напрыклад, Ярэміч, былы дэпутат Сэйму Польскай Рэспублікі, беларускі дзеяч з колішняй групы "Сялянскай нівы", быў высланы на высокую пасаду ажно да Барысава. Уцёк адтуль пехатою... Хаваўся ад гестапа і, калі распавядаў мне, што робіцца ў тых ваколіцах, хапаўся за галаву!

Больш дысцыплінаваная група вырашыла аднак "палітычна перачакаць", увесь час выглядаючы савецкую паразу з аднаго боку, а перамогу саюзнікаў — з другога. Зрэшты, праява паўсюднай у той час хваробы ў гэтай частцы Усходняй Еўропы, па якой я меў гонар блукаць...

* * *

У Вільні пачаў выходзіць адпаведнік беларускай "Раніцы", здаецца, пад назвай "Беларускі голас". Гэтага вось часопіса рэдактарам стаў Францішак Аляхновіч. "Божа! — скардзіўся ён, — чаго яны ад ад мяне хочуць, я ніколі не быў публіцыстам у чыстым значэнні гэтага слова. Я літаратар..." Ён быў ужо стары. Распальваўся толькі, калі пісаў аб бальшавіках, акрамя таго цікавіў яго тэатр, ён кахаў Беларусь па-сапраўднаму, старою пачціваю рамантычнай любоўю, якую ён усмактаў з XIX стагоддзя. Жонка ягоная была полькай.

Аляхновіч баяўся. Гады турмы, катаргі, следства вылазілі цяпер у выразе ягоных вачэй зусім відавочна. За нейкую глупую карэктарскую памылку немцы яго арыштавалі і пратрымалі некалькі дзён у гестапа. Усё ахвотней піў гнаны ў той час паўсюль самагон.

На канец 1943 года, менавіта, прыпадаў дзень ягонага нараджэння. Спаўнялася шэсцьдзесят гадоў. У яго быў фокстэр'ер, надзвычай голкі, якога ён страшна любіў.

За два вечары да маючай адбыцца ўрачыстасці дня нараджэння хтосьці пастукаўся каля восьмай гадзіны вечара ў дзверы ягонае кватэры, якія выходзілі ў сенцы першага паверху дома, не асветленыя. Вулачка ў гэтым месцы была вузкая, прыцемненая разрослымі клёнамі. Вечар бязмесячны. Восень. Дзверы зачыненыя на засаўку і ключ. Сабачка забрахаў. "Хто там?" — запыталася жонка Аляхновіча. Адказаў мужчынскі голас, спакойны, чыстаю ўсходнебеларускаю моваю: што прыехаў з Менска да пана Аляхновіча. Увайшоў поўны мужчына, малады, ветлівы і з усмешкаю на твары. Вельмі перапрашаў за познюю пару. Назваў прозвішчы асоб, ад якіх меў рэкамендацыі з Менска. Сказаў, што толькі на хвілінку.

Аляхновіч выскачыў у сталовую з малога пакойчыка, які служыў яму кабінетам. Паціраючы на свой манер рукі, запрасіў да сябе. Ветлівы прышэлец прайшоў пружыністым крокам, усміхаючыся ўвесь час, і хацеў нават пагладзіць сабачку. Гэтага малога фокстэр'ера. Але той пачаў кідацца, брахаць, ускочыў на крэсла, адтуль на стол і зноў на падлогу. Ягоны сковат заглушаў размову. Аляхновічава пачала яго лавіць, каб супакоіць; перш чым падхапіла на рукі, мужчыны перайшлі ўжо ў другі пакой. "Пупсік (так яго клікалі), зараз жа супакойся!" Паспела яго яшчэ пагладзіць два разы... Два стрэлы, адзін за адным, прагучалі ў гэты момант у суседнім пакоі. Пасля іх наступіла цішыня, якая працягвалася хвіліну, а з пакойчыка выйшаў той самы чалавек і трымаў аўтаматычны пісталет у руцэ. Ён прайшоў зноў праз сталовую, скіраваў рулю на жанчыну, калі тая ўчыніла рух, як быццам хацела на яго кінуцца. Нешта шыкнуў. Адышоў затым спіною да дзвярэй, намацаў засаўку, спакойна, вытрымана, адчыніў без цяжкасці. НКУС ведаў найдакладнейшую планіроўку кватэры і кожную ў ёй дробязь. Усё было прадугледжана, падлічана, разлічана. Восьмая гадзіна — гэта ў той час паліцыйная гадзіна, бязмесячная цемра. Цесная вулачка, клёны, запалошаны, здзічэлы горад. Бразнуў дзвярмі і — усялякі след па ім згінуў.

Жонка ўбегла да пакоя побач. Аляхновіч яшчэ стаяў. Стаяў перад сталом і кроў сцякала па ягоным твары. Левую руку ён трымаў каля грудзей, пасля паспрабаваў расшпіліць каўнярок, адарваў яе і ўказаў нешта на стале, захістаўся, упаў на фатэль і сканаў адразу.

На стале не было нічога, што б звяртала ўвагу. Стаяла толькі старая бляшаная Аляхновічава скрынка з надпісам "Польская тытунёвая манаполія", з выявай афіцэра флоту на фоне тарпеднага кацера. Скрыначка была адчынена, у ёй трохі самасаднага беларускага тытуню і цыдулка, у якую ён пачаў скручваць цыгарэту і якую ніколі не выкурыў.

**Пераклад Ю.В.**

# ЁСЦЬ У СІБІРЫ СВОЙ БЕЛАСТОК...

Шмат для каго, а для нашых землякоў тым больш, слова "Сібір" амаль заўсёды стаяла побач са словамі "катарга", "ссылка", "дэпартацыя"... І для гэтага былі падставы, таму з усіх дарог, што вядуць у Сібір, для іх дарога катаржнікаў, ссыльных, дэпартаваных была самай пракладзенай на працягу некалькіх стагоддзяў пры ўсіх урадах і рэжымах.

На беразе некалі паўнаводнай, а цяпер цалкам зарослай рачулкі Броўкі, за сто пяцьдзесят кіламетраў на поўнач ад Томска ляжыць невялікая вёска Беласток. З'явілася яна ў сібірскай глушы ў самым пачатку стагоддзя намаганнямі ў асноўным беларускіх і польскіх перасяленцаў з малазямельных заходніх губерняў Расейскай дзяржавы: Гарадзенскай, Віленскай, Віцебскай.

Зразумела, што не ад добрага жыцця рашыліся нашыя суайчыннікі, векавечныя хлебаробы, на перасяленне ў далёкую Сібір. Беззямелле, нізкая ўрадлівасць мясцовых пясчаных глебаў не дазвалялі пракарміць вялікія сялянскія сем'і. Да Томска ехалі чыгункай у таварных вагонах разам з жывёлай і правіянтам для яе, начыннем і сялянскімі прыладамі працы. (На сям'ю выдзялялі ў 1907 годзе адзін вагон-таварняк. — **І.К.**) Ад Томска да вёскі Малчанава, дзе знаходзіўся адзін з перасяленчых пунктаў, плылі на параходзе па вялікай сібірскай "Місісіпі" — Обі, а там ужо сваім ходам праз таежныя заімкі і балоты да месца ўсталявання... Так на карце Томскай губерні ў пачатку стагоддзя з'явілася вёска Беласток.

Цяжка абжываліся на новым месцы землякі першапраходцы: палохала суровая сібірская прырода з яе неміласэрным таежным гнюсам летам і нечуванымі маразамі зімой, ад якіх не ратоўвалі самаробныя накамарнікі і спехам вырытыя поўзямлянкі. Не рэдкасцю быў паморак жывёлы ад бяскорміцы і нападу драпежнікаў, а яшчэ была жахлівая праца ад світання да позняга вечара на раскарчоўцы тайгі пад пашу. Гэта не была праца прыгоннага альбо раба: кожны працаваў на сваёй зямлі і ведаў, што дабрабыт яго сям'і будзе залежаць толькі ад яго самога, а не ад дзяржаўнага чынавенства.

Прыгожая вырасла вёска. Да пачатку першай сусветнай вайны яна налічвала больш за 200 двароў. А побач з'явілася яшчэ некалькі вёсачак перасяленцаў з цэнтральных раёнаў Расіі.

У Сібіры памешчыкаў не было: кожны працаваў на сябе. Дастатак залежаў ад дбайнасці і колькасці працоўных рук у сям'і. Але грамадзянская вайна, калчакаўшчына, харчразвёрстка адбіліся на жыцці вяскоўцаў. Многіх кармільцаў страцілі тады сем'і. Але жыццё ішло сваім парадкам, і трэба было жыць...

У пачатку 30-х гадоў сталі і ў Беластоку пагаворваць пра калектывізацыю. Цяжка на гэтыя размовы ішоў сібірскі селянін, ужо звыклы самастойна гаспадарыць на зямлі.

У 1935 годзе ў вёсцы ўсё ж быў арганізаваны калгас. Назвалі яго "Чырвоны штандар", — па-свойму, насуперак волі начальства. Імкнучыся хутчэй адрапартаваць аб завяршэнні суцэльнай калектывізацыі, вяковыя ўлады сталі раскулачваць непакорлівых, шантажаваць "сомневающихся": адбіралі ўсе надзелы зямлі, прысядзібныя ўчасткі і агароды абразалі да самага ганка, павялічвалі планы здачы збожжа. А калі былі незадаволеныя — "дапамагала" міліцыя. Прайшлі першыя арышты: каго "за доўгі язык" упяклі, каго за нежаданне ўступіць у калгас.

З 1937 года сталі ў вёсцы забіраць па так званай "лініі НКУС". У першую чаргу ўзялі дырэктара школы П.Д.Чырвонага, настаўніка П.І. Барысаўца і загадчыка гаспадарчай часткі школы Н.М.Карэліна. Разам з імі была арыштавана група калгаснікаў. У кастрычніку 1937 года арыштавалі яшчэ некалькі чалавек, у тым ліку і члена выканкама сельсавета І.С.Назарука. Але самай страшнай была ноч з 11 на 12 лютага 1938 года, калі былі арыштаваны амаль усе астатнія мужчыны ва ўзросце ад 17 да 70 гадоў.

На гэтым "хроніка рэпрэсіяў НКВДэшнага характару" ў дачыненні да жыхароў вёскі Беласток завяршылася з-за вычэрпвання зыходнага матэрыялу — мужчын. Справядлівасці дзеля варта заўважыць, што жанчын вёскі рэпрэсіі не кранулі. Ніхто з іх не быў асуджаны па палітычным 58 артыкуле. Але ім яшчэ доўгія гады давялося несці цяжкае кляймо жонак "ворагаў народа" з усімі наступствамі.

Вывучэнне архіўна-следчых спраў 30-х гадоў у дачыненні да жыхароў вёскі паказала, што з 30 жніўня 1937 года па 12 лютага 1938 года было арыштавана органамі НКУС 88 чалавек. Лічба ўражвае, калі ведаць, што ў вёсцы па выніках перапісу 1937 года налічвалася ўсяго сто дваццаць сем мужчын ад васемнаццаці гадоў да старых. Шэсцьдзесят восем чалавек з усіх арыштаваных у той час былі неабгрунтавана рэпрэсаваныя. І толькі двум з іх пашчасціла застацца ў жывых.

Большасць арыштаваных абвінавачвалася як удзельнікі нацыяналістычнай контррэвалюцыйна-дыверсійнай паўстанцкай арганізацыі пад назвай "Польская арганізацыя вайсковая". Усе справы былі сфальсіфікаваныя, сфабрыкаваныя супрацоўнікамі НКУС. Падобныя арганізацыі былі абясшкоджаны ў многіх раёнах Нарымскай акругі Заходне-Сібірскага краю. Не знайшоўшы пры вышукванні ніякай зброі, у абвінавачанні запісвалі, што гэтая арганізацыя павінна была захапіць зброю падчас паўстання. А каб абвінавачанні былі больш дакладнымі, патрабавалі ад кожнага прызнацца у здзяйсненні пэўнага шкодніцтва альбо дыверсіі. Тыя, хто крыху ведаў грамату, прызнаваліся ў "контррэвалюцыйнай прапагандзе, падрыве аўтарытэту Савецкай улады і калгаснага ладу, кіраванні тэрорам".

Калі меркаваць па датах выканання прысуду, арыштаваныя ў жніўні 1937 года былі расстраляны 5 лістапада 1937 года. Тыя, хто быў арыштаваны 11-12лютага 1938 года, былі прысуджаны да вышэйшай меры пакарання Асобай нарадай пра НКУС СССР 9-10 красавіка 1938 года. "Судзіла" беластокаўцаў не "тройка" НКУС Заходне-Сібірскага краю, а Асобая нарада. Усе паперы пра прысуды падпісвала высокае начальства ў Маскве, пэўна, для большай пераканаўчасці і значнасці сфабрыкаваных спраў.

Цяпер вядома, што ўсе рэпрэсаваныя ў 1937-1938 гадах жыхары Беластока былі рэабілітаваны пасмяротна ў 1955-1957 гадах.

Немагчыма пайменна назваць усіх рэпрэсаваных жыхароў Беластока, як не ведаем мы прозвішчаў і імёнаў катаў, і тых, што падпісалі прысуды аб расстрэле ў Маскве, што выконвалі гэтыя прысуды. Дзесьці, на стэлажах Цэнтральнага архіва былога КДБ у Маскве знаходзіцца на захаванні крымінальная справа № 830458 у трох тамах па абвінавачанні жыхароў вёскі Беласток. Ці адкрые яна свае тайны? Будзем спадзявацца.

...Дык ці ўся праўда сказана? І, галоўнае, ці стануць архіўныя росшукі прыступкай да празрэння?

На гэтае пытанне няхай самастойна адкажа кожны сам сабе. І той, хто лічыць тэму сталінізму вычарпанай, і той, каго яна трывожыць і сёння.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук, дацэнт**

## ЗАМЕСТ КРОПКІ

# МАЛІТВА НА КОЖНЫ ДЗЕНЬ

## (нататкі "веруючага атэіста")

Ніколі не думаў і нават уявіць сабе не мог, што на цэлы тыдзень апынуся ў асяроддзі святароў — праваслаўных і каталіцкіх, лютаранскіх і баптысцкіх, архірэяў, протаіерэяў, дактароў багаслоўя, рэлігійных публіцыстаў, манахаў, што буду сядзець з імі за адным сталом, а галоўнае — што знайду з імі агульную мову. Праўда, перахварэўшы ў партызанскім сваім дзяцінстве ды і ў гады юнацтва зацятым сталінізмам, усё ж пазбег яшчэ адной хваробы, якая спадарожнічае сталінізму і ўсялякаму іншаму камунізму: ніколі не быў атэістам сталінісцкага, ленінскага, бальшавіцкага кшталту. Ніколі не ставіўся варожа альбо з падазронасцю да таго ці іншага чалавека толькі таму, што ён верыў у Бога, ніколі не кпіў з веруючых, не смяяўся. Мо таму, што заўсёды помніў і помню сваю бабулю Гэлю, якая некалі замяніла мне памёршую зусім маладзенькай — на 28-м годзе жыцця — маму. А бабуля верыла ў Бога.

Дагэтуль да дробязяў помню бабулін пакойчык у нашай маленечкай даваеннай кватэры на Трамвайным завулку ў Менску, — дом стаяў там, дзе цяпер пачынаецца вуліца Варвашэні, на рагу гэтай вуліцы і праспекта Скарыны. Бабулін пакойчык быў такі маленькі, што ў ім памяшчаліся толькі жалезны ложак з горкай падушак, засланы строгай белай капай, і цёмна-вішнёвая, амаль чорная ад часу тумбачка. Над ложкам вісела на сцяне Распяцце, таксама чорнае, з цэльнага кавалка моранага дуба — цудоўная разьбярская работа невядомага майстра. У нагах Распяцця мігцела падвешаная на трох бронзавых ланцужках мядзяная лампадка, а на тумбачцы ляжаў бабцін ружанец са срэбраным крыжыкам і маленечкі малітоўнічак у чорнай вокладцы. У пакойчыку было толькі адно акенца, і там заўсёды быў паўзмрок, таямнічы і загадкавы для хлопчыка, як і бабулін шэпт, калі яна малілася: "ойчэ наш, ктуры ест в небёсах, свенць імя Твое, боньдзь воля Твоя, пшыдзь крулевство Твое".

Калі я быў зусім яшчэ малы, бабуля брала мяне з сабою ў касцёл святога Роха, да якога ад дому было рукой падаць — перайшоў праз дарогу, і там. Той касцёл стаіць і сёння, побач з палацам мастацтваў, — у касцёле гэтым, дарэчы, бабуля мяне і ахрысціла, калі я быў немаўляткам, употай ад маіх бацькоў-бязбожнікаў.

Бязбожнікам рос і я. Не было і не магло быць ніякага іншага выхавання, акрамя савецкага. І ў школе, і дома. Бо хоць мае бацькі і не ўпікалі бабулю за тое, што яна верыць у Бога, аднак тлуміць галаву ўнуку "套рознымі забабонамі" катэгарычна забаранялі. Бабуля і не тлуміла, аднак жа заўсёды была побач —самаахвярная, шчырая, міласэрная, без ценю сквапнасці, хцівасці, зласлівасці, ніколі нікому ні ў чым не зайздросціла, верыла, што ўсе людзі — добрыя, толькі не ўсе могуць не паддавацца спакусам, а не могуць таму, што забываюць Пана Езуса. Дык ці мог я, ведаючы бабулю, заразіцца дурным, зубаскальскім, хуліганскім атэізмам? Бабулін вобраз застаўся ў душы, зрабіўся апірышчам у цяжкія хвіліны, у хвіліны роспачы і, здараецца, бязвер'я ў людзей, у іх здольнасць і жаданне хоць што-небудзь зразумець, хоць што-небудзь перамяніць на лепшае ў гэтым свеце гвалту, ашуканства, маны, подласці і нянавісці... Не здолелі апраўдаць "наш савецкі атэізм" ні крывадушныя рэлігійныя ханжы і проста падонкі, якіх нямала сустрэў у жыцці, ні — калі ўспомніць вайну — салдаты гітлераўскай арміі, якія ў час акупацыі Беларусі бязлітасна забівалі дзяцей і старых, спальвалі вёскі разам з людзьмі і на спражках якіх блішчэлі латунныя літары: "З намі Бог".

І ўсё ж, не прымаючы невуцкі, крымінальны савецкі атэізм, ніяк не магу лічыць сябе веруючым чалавекам, хоць з хвалюючай радасцю прачытаў, будучы сталым ужо, недзе ў трыццацігадовым узросце, Святое Пісанне, і, чытаючы, заносіў на свой рахунак атэістычнай імперыі, на свой рахунак партыі атэістаў і гэтае злачынства — забарону Бібліі, забарону твораў хрысціянскіх філосафаў, што было своеасаблівай лабатоміяй грамадства, выдаленнем тых доляў мозга, ад якіх залежыць духоўнае аблічча асобы. І пры гэтым кляліся гуманізмам, якога проста не было б без хрысціянства, які менавіта хрысціянствам і быў народжаны, як была ім народжана і на ім заснавана ўся еўрапейская цывілізацыя, увесь будынак яе культуры, літаратуры, мастацтва, музыкі, этыкі і маралі. (Цікава, што хоць і змагаліся з хрысціянствам, зацята цкавалі яго, фізічна знішчалі ў свой час самых адданых яго вернікаў, а ў аснову "маральнага кодэкса будаўніка камунізму" паклалі дзесяць хрысціянскіх запаведзяў! Праўда, аскапіўшы іх, выкінуўшы паняцце Бога, выклаўшы іх сваёй чыноўніцкай, канцылярскай, мёртвай мовай.)

Усё так. Ды ўсё ж, паўтараю, ніяк не магу лічыць сябе веруючым. І таму крыху разгубіўся, крыху сумеўся, калі атрымаў запрашэнне прыняць удзел у міжнароднай хрысціянскай межканфесійнай канферэнцыі на тэму: "Апостал Павел і пагроза самазнішчэння", якая працавала сёлета ў Кішынёве з 8 па 15 кастрычніка.

Запрашэнне было падпісана прэм'ер-міністрам Рэспублікі Малдова Андрэем Сангелі і старшынёй аргкамітэта канферэнцыі, акадэмікам Іонам Друцэ. Прызнаюся, што, калі б не подпіс Друцэ, я, відаць і не паехаў бы на тую канферэнцыю. Якое я маю дачыненне да тэалогіі, да спецыфічна рэлігійных праблем? Але запрашаў блізкі мне чалавек, з якім я знаёмы амаль трыццаць гадоў. Запрашаў друг. І як жа было не ўзрадавацца магчымасці сустрэцца з Іонам! І не ў Маскве, дзе ён жыве з часоў свайго выгнання з Малдовы, адкуль яго выжылі партыйныя босы — за яго п'есы, якія былі ім недаспадобы, хоць і абышлі сцэны ўсіх сталіц былога СССР, сцэны Парыжа, Лондана, Берліна, Іерусаліма, а недаспадобы яны былі партыйным босам, як і ён сам, сваім высакародствам, сваёй чалавечнасцю, сваёй праўдай, — сустрэцца з ім не ў Маскве, а ў яго роднай Малдове, пра якую ён мне столькі расказваў. Да таго ж прывабіла і адна з тэм канферэнцыі, якая называлася ў запрашэнні: "Заняпад веры і народжаныя ім страхі пры распадзе вялікіх імперый". Падумалася, што гэта выходзіць за рамкі толькі рэлігійнай веры, за рамкі хрысціянскай праблемы. Бо і камунізм — рэлігія. "Рэлігія атэістаў", якая не толькі заняпала, а і пацярпела крах разам з крахам атэістычнай імперыі. І гэта нарадзіла страхі, якія не даюць спаць усім нам — не толькі традыцыйна веруючым, не толькі хрысціянам...




Словам, паехаў. І не пашкадаваў потым. Бо размова, якая адбылася на канферэнцыі, нічым не была падобная да вузка тэалагічнай спрэчкі, да схаластычных багаслоўскіх разважанняў. Гэта была размова аб сучаснасці, аб тым, што ўсім нам баліць сёння. Удзельнікі дыскусіі спрабавалі адказаць на самае галоўнае, самае пякучае пытанне сучаснасці: як пераадолець нечуваны сацыяльна-эканамічны крызіс, у якім апынулася грамадства ўсіх краін СНД, і — шырэй — маральны, духоўны крызіс усяго чалавецтва. Думка ўсіх была аднадушнай: эканамічны крызіс у краінах СНД немагчыма пераадолець, немагчыма выйсці з яго, не знайшоўшы выйсце з крызісу духоўнага. Як сказаў Іон Друцэ ў сваёй уступнай прамове: "Нам трэба задумацца над тым, як ураткаваць нашыя душы і як ураткаваць духоўны свет чалавека, бо толькі захаваўшы духоўны пачатак, мы можам пазбегнуць самазнішчэння. Нас непакоіць вастрыня міжнацыянальных канфліктаў. На Захадзе нават паявілася тэорыя аб тым, што ўзбунтаваны этнас пахавае цывілізацыю. Паспрабуем жа вачыма апостала Паўла разгледзець навакольны свет і прыгадаем вялікі пастулат апостала: "Для веруючага хрысціяніна няма ні эліна, ні іудзея". Гэтыя словы Іоны Панцялеевіча падсумавалі тое, што ён сказаў крыху раней, у пачатку сваёй прамовы: "Пасля распаду СССР узмацнілася пачуццё адзіноты — індывідуальнай, нацыянальнай, дзяржаўнай нават. З усіх разбураных структур старой імперыі самым балючым аказалася разбурэнне структуры чалавечых адносін. Безумоўна, СССР памёр сваёй смерцю, і мы не станем асабліва смуткаваць з гэтай нагоды, аднак пракладзеныя паміж нашымі народамі шматлікія сцежкі не павінны быць забытыя, не павінны зарастаць, бо гэта былі сцежкі ад сэрца да сэрца, ад брата да брата, а братэрства — гэта тое, што не павінна быць падуладна палітычным кан'юнктурам. І ў якія колеры ні былі б афарбаваныя нашы нацыянальныя сцягі, прайшоўшыя 70 год пакут звязалі ўвесь былы сацыялістычны лагер у адзіную братэрскую сям'ю. Не будзем спяшацца адмаўляцца ад яе, мы многім ёй абавязаны".

Братэрства людзей, народжанае сумеснымі пакутамі пад ігам атэістычнай імперыі, — вось аснова для адшукання грамадскай згоды, для захавання міру паміж дзяржавамі і грамадзянскага міру. Думаецца, гэта правільны тэзіс, правільны пастулат. І ён фізічна адчуваўся там, на канферэнцыі, калі перад кожным паседжаннем адбывалася набажэнства: сёння — праваслаўнае, заўтра — каталіцкае, паслязаўтра — лютаранскае, на наступны дзень — баптысцкае. Людзі ўсіх канфесій былі адзіныя ў сваіх пачуццях і думках, маліліся аднаму Богу — Хрысту. Які быў не толькі Богам, але і Чалавекам. І, прызнаюся, для мяне менавіта гэта галоўнае — тое, што ён быў Чалавекам. На ўсе часы і для ўсіх. Чалавекам, які вучыў, што вера не для таго, каб знайсці самазаспакаенне, а для таго, каб занепакоіцца аб іншых, ратаваць не толькі і не столькі сваю душу, колькі душу бліжняга свайго. Ратаваць свет.

Пад гэтым знакам непакою за ўсё існае і прайшла канферэнцыя, значэнне якой добра зразумела кіраўніцтва Рэспублікі Малдова, таму і аказала ёй дзяржаўную падтрымку. На пасяджэннях прысутнічалі Прэзідэнт Малдовы Мірча Снегур, прэм'ер Андрэй Сангелі, іншыя члены ўрада, — людзі, якія згаджаюцца з думкай, што нельга выйсці з эканамічнай бездані без выхаду з духоўнага крызісу. І як было не пазайздросціць, што кіраўнікі Малдовы гэта разумеюць, разумеюць, што калі адкладваць пытанні духоўнасці, праблемы культуры, літаратуры, мастацтва "на потым", то можна жорстка памыліцца, можна так і не зрушыць з месца ніякія эканамічныя рэформы!

Давялося выступіць на канферэнцыі і мне, "веруючаму атэісту", як жартаўліва прадставіў мяне Іон Друцэ, калі даваў слова, дадаўшы, аднак, зусім сур'ёзна, што калі чалавек не лічыць сумленне хімерай, калі ён упэўнены ў вялікай ачышчальнай сіле пакаяння за наўмысны ці ненаўмысны грэх перад людзьмі — і жывымі, і мёртвымі, калі яму сорамна нават перад мёртвымі, якім ён зрабіў пры жыцці нешта кепскае, калі ён адчувае сваю адказнасць за ўсё, што робіцца ў яго краіне, — такі чалавек, безумоўна, веруючы, хоць і няма ў яго ніякага афіцыйнага веравызнання, хоць і ёсць у яго сумненні ў існаванні Бога. Не ведаю, ці заслужыў я такую характарыстыку, напэўна, не зусім, аднак па сутнасці, па думцы гэта праўда. А сказаў я ў сваім кароценькім выступленні вось што: "Я недзе прачытаў нядаўна, а можа, проста пачуў ад некага, што калі будзе знойдзены залаты крыж Еўфрасінні Полацкай, які згубіўся ў час гістарычных катаклізмаў, што выпалі на долю Беларусі, беларусы зажывуць шчасліва і заможна, у добрай згодзе паміж сабою, і ўсталюецца высокая мараль, высокая духоўнасць. Я, аднак, думаю, што ўсё наадварот: калі беларусы адновяць сваю духоўнасць, калі выцягнуць сваю краіну з бездані і духоўнага, і эканамічнага крызісу, калі зробяць немагчымым раздрай у сваім грамадстве, то крыж Еўфрасінні знойдзецца сам сабою, каб благаславіць адроджаную Беларусь і яе народ".

Пра гэта думаў я і вяртаючыся дадому. І ўспамінаў зноў сваю бабулю, яе таямнічы шэпт у паўзмроку пакойчыка, падобнага да келлі: "Ойчэ наш, ктуры ест в небёсах, свенць імя Твое, боньдзь воля Твоя, пшыдзь крулевство Твое..." Успамінаў і паўтараў гэтыя словы. Хоць і няверуючы. Але і няверуючыя павінны спадзявацца штодня і на хлеб надзённы, і пазбягаць спакусы, і цурацца д'ябла, які сядзіць у нас саміх, — д'ябла нянавісці, прагі да лёгкага багацця, д'ябла раўнадушша і абыякавасці, д'ябла, які адбірае ў нас памяць аб вінаватасці нашай за ўсё, што аднойчы ўжо прывяло да самазнішчэння і можа прывесці зноў. На гэты раз — да канчатковага.

Хай бы ўсе — і веруючыя, і няверуючыя — паўтаралі для сябе гэтую малітву на кожны дзень! Малітву-заклік быць чалавекам...

**Валянцін ТАРАС**

*На здымку:* Прэзідыум канферэнцыі "Апостал Павел і пагроза самазнішчэння"

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам. галоўнага рэдактара —
Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:
А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГЛЕП,
Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ,
А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ,
В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ,
В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ

Адказны сакратар — Пётра ВАСІЛЕЎСКІ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Кампутарная вёрстка — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.
©
Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 6000
Замова 28
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.